
Семяноўская памяць → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Памяць пра жыдоў → 5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 34 (3250) Год LXIII | Беласток, 26 жніўня 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Успенскі пост, у народзе «Спасаўка», канчаецца святкаваннем Успення Прасвятой Багародзіцы. Яно з'яўляецца таксама святам ураджаю, падчас якога асвячаюцца збожжа і плады. Посту папярэднічалі спевы і танцы, якія ў нашых вёсках былі формай адпачынку ад цяжкай жніўнай працы. Гэтую традыцыю захоўваюць беларусы Бельска-Падляшскага, якія ў апошнюю нядзелю перад «Спасаўкай» ладзяць «Спасаўскія запусты». Падчас мерапрыемства**


■ «Спасаўскія запусты» пачаліся з абраду «Перапяліца» ў выкананні «Васілёчкаў» і «Антракта»

і цяпер, будучы дырэктарам, таксама гэтым займаюся, — сказала Альжбета Фіёнік, дырэктар БДК.

Перад сабранымі выступілі калектыў «Асенні лісць» Універсітэта трэцяга веку з Бельска-Падляшскага, з якім працуе старшыня гэтага ўніверсітэта Тамара Русачык і калектыў «Луна» з Парцава. Захапілі публіку Вікторыя Гаць, Анеля Хмур і Барташ Келса — салісты калектыву «Капрыс» бельскай «тройкі», з якім займаецца настаўніца Анна Вярцінская. «Васілёчкі» праспявалі беларускія песні, а да твора «Казацкае вяселле» запрэзентавалі танец. Перад публікай па-акцёрску выступіў мясцовы калектыў «Маланка», які захапіў сабраных меладычнымі творамі.

— Я ўжо паўгода спяваю ў «Маланцы». Мне падабаюцца выступы з народнымі беларускімі песнямі ў апрацоўцы нашага мастацкага кіраўніка Сяргея Лукашука. Закончыўшы вышэйшую адукацыю ў Любліне, я вярнулася дамоў. Вучыла хіміі ў бельскай «тройцы», замяшчаючы на-

# XXIV Спасаўскія запусты

**паказваюць жніўныя абрады і арганізуюць канцэрт беларускіх калектываў. Усё гэта адбываецца на прыродзе ў Парку каралевы Галены.**



«Спасаўскія запусты» арганізуюцца ў Бельску-Падляшскім з паловы дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Іх арганізатарам з'яўляецца раённае аддзяленне БГКТ у Бельску, а дапамагаюць яму іншыя беларускія арганізацыі. Многа арганізацыйных спраў бярэ на сябе Бельскі дом культуры. Суарганізатарам запустаў ад пачатку свайго існавання стала Аб'яднанне «Бельская кааліцыя».

У сонечны дзень, 12 ліпеня, у Парку каралевы Галены ў Бельску падчас XXIV «Спасаўскіх запустаў» сабралася многа гараджан і жыхароў навакольных мясцовасцей, любіцеляў беларускіх песень і нашых традыцый. Мерапрыемства пачалося з займальнай прэзентацыі жніўнага абраду «Перапяліца» ў выкананні калектыву беларускай песні і танца «Васілёчкі», з дапамогай тэатральнага калектыву «Антракт», якія дзейнічаюць у Бельскім доме культуры. Дарослыя члены «Васілёчкаў», моладзь і дзеткі абрадавай групы «Антракта» выступілі па-акцёрску, звяртаючы ўвагу на дэталі і адметнасці даўняга абраду, які цяпер прэзентуецца ўжо толькі падчас фальклорных мерапрыемстваў.

— Сцэнарый абраду «Перапяліца» я напісала пасля размоў з Валянцінай Марціновіч з Краснага Сяла і Верай Нічыпарук з Маліннік, якія падрабязна распавялі мне пра абрад у іх вёсках. Падчас рэпетыцый я сачыла, каб члены «Васілёчкаў» выступалі паводле сцэнарыя і паказалі, як у мінулым цяжка працавалі жнеі і касцы, а пасля ставілі «перапяліцу» і весяліліся. Дырэктар Бельскага дома культуры Альжбета Фіёнік, якая надалей займаецца з «Антрактам», вучыла дзетак і моладзь выступаць у абрадавых сцэнках. Вельмі добра, што вучні цікавяцца фальклорам, хочуць яго прэзентаваць публіцы і такім чынам знаёміць яе з нашым мінулым, — распавяла арганізацыйны кіраўнік «Васілёчкаў» Ніна Бялецкая.

Пасля жніўнага абраду дырэктар БДК Альжбета Фіёнік прывітала гасцей мерапрыемства: старшыню Павятовай управы БГКТ у Бельску-Падляшскім Васіля Ляшчынскага, бургамістра Яраслава Бароўскага, войта Арлянскай гміны Пятра Сэльвесюка, войта Бельскай вясковай гміны Раісу Раецкую, гарадскіх радных Аляксандра Божку і Андрэя Рошчанку з кіраўніцтва Аб'яднання «Бельская каліцыя». «Спасаўскія запусты» адкрылі старшыня Павятовай управы БГКТ Васіль Ляшчынскі і бургамістр Яраслаў Бароўскі, якія прывіталі сабраных і пахвалілі прэзентацыю нашага фальклору, якая старэйшым сабраным напомніла іх дзяцінства.

— Мы паказваем тут сваё мінулае. Прыехалі мы ў горад з навакольных вёсак і малых мястэчак. Створаныя мы з сялянскай, беларускай матэрыі і не можам забываць пра свае карані, — сказаў старшыня Павятовай управы БГКТ, былы дырэктар бельскай «тройкі» Васіль Ляшчынскі, які здаўна старшынствуе арганізатарам «Спасаўскіх запустаў». — У васьмідзясятых і дзевяностых гадах мінулага стагоддзя беларуская імпрэзы ладзіла ў Бельску Галоўнае праўленне БГКТ. Мы рашыліся актывізаваць наша грамадства, арганізаваць мерапрыемства сіламі беларусаў Бельска. У палове дзевяностых гадоў бургамістрам Бельска быў Андрэй Сцепанюк (цяпер дырэктар Бельскага белліцэя — А. М.) і ён фінансава падтрымаў нашу беларускую імпрэзу. Падчас ранейшых «Спасаўскіх запустаў» арганізаваліся выставы мастацтва, фотавыставы, прэзентаваліся фільмы. «Спасаўскія запусты» сталі ўжо брэндам Бельска і варта было б яшчэ пашырыць іх формулу. Дзеля гэтага трэба было б пісаць праекты і прыцягваць сродкі, але я ўжо застары і таму патрэбная ангажаванасць маладых асоб, на што і разлічваем.

«Спасаўскія запусты» служаць таксама інтэграцыі беларускіх калектываў Бельшчыны, якім важная беларуская культура.

— У час «Спасаўскіх запустаў» мы паказваем бельскай публіцы народныя абрады. Важна, каб дзеткі вучыліся нашым абрадам ад іх носьбітаў, ураджэнцаў нашых вёсак. Другую частку мерапрыемства традыцыйна складае канцэрт нашых беларускіх вакальных і музычных калектываў. Я ад многіх гадоў займалася музычнай часткай «Спасаўскіх запустаў» стаўніцу. Цяпер буду вучыць гэтаму прадмету ў адной з беластоцкіх школ. Аднак мяне цягне ў Бельск і маю намер надалей займацца ў «Маланцы» і выступаць з ёй, — заявіла Аляксандра Перавой і дабавіла, што пачала спяваць у студзіводскай «Жэмэрве». Пазней займалася ў «Антракце» і нядаўна далучылася да «Маланкі».

— Назву нашаму мерапрыемству знайшоў у абрадавым календары Юрка Асеннік. Першапачаткова запрапанаваў ён нам «Спасаўскія запускі», але мы рашыліся на «запусты». Падчас мерапрыемства мы не толькі прэзентавалі беларускі фальклор і народныя песні. Здаўна ў час запустаў гучыць таксама сучасная беларуская музыка, — заявіў былы дырэктар Бельскага дома культуры, мастацкі кіраўнік «Маланкі» Сяргей Лукашук.

— Мы выступаем з вядомымі беларускімі песнямі, якія я крыху перарабляю на стыль фольк, што асабліва падабаецца малодшай публіцы. Аднак я рады, што нашы выступы цікавыя таксама старэйшым гледачам. Я падчас канцэртаў вяду гутарку з публікай і яна ахвотна далучаецца да нас і спявае вядомыя песні, — заявіў Марыюш Харужы, мастацкі кіраўнік калектыву «Гай» з Беластока.

Майстэрства выканання народных беларускіх песень і інструментальнай музыкі паказаў Ансамбль народнай песні «Журавіны» са Школы мастацтваў у Кобрыне (Рэспубліка Беларусь), які супрацоўнічае з Бельскім домам культуры.

— У нашым ансамблі выступаюць настаўнікі Школы мастацтваў у Кобрыне па розных прадметах, у тым ліку ігры на музычных інструментах. Мы спяваем беларускія народныя песні пад музыку нашай капэлы. Мы ўжо чарговы раз выступаем у Бельску-Падляшскім, — сказала мастацкі кіраўнік ансамбля «Журавіны» Наталля Буневіч.

Мерапрыемства ўдала вялі Марта Зінкевіч і Оля Зінкевіч, а падмяняла іх на сцэне дырэктар БДК Альжбета Фіёнік, якая перш за ўсё сачыла за арганізацыяй «Спасаўскіх запустаў».

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**





# Лёс дысідэнтаў

У глухой расейскай глыбінцы на тэрыторыі сібірскага Ямала ў турэмнай калоніі згасае палітычны вязень, украінскі рэжысёр Алег Сянцоў. Чалавек, які пастанавіў памерці за іншых, чым жыць у няволі. Творца, якога засудзілі паводле абсурднага абвінавачвання ажно да 20 гадоў зняволення. Па сутнасці засудзілі толькі за тое, што ён выступіў супраць расейскай акупацыі Крыма. З 14 траўня Алег Сянцоў трымае бестэрміновую галадоўку. За сябе рэжысёр не просіць і пісаць прашэнне пра памілаванне маскоўскаму ўладару Пуціну катэгарычна адмовіўся — ён патрабуе вызваліць не сябе, а ўсіх іншых украінскіх палітычных вязняў. Такіх налічваецца ажно 64. За іх вызваленне Сянцоў ахвяруе сваім як мінімум здароўем і гатовы аддаць жыццё.

Хочацца тут прыгадаць лёс дысідэнта, змагара з савецкай несправядлівасцю і дзікунскай карнай сістэмай Анатоля Марчанку. Ён не быў ад нараджэння іншадумцам, з маладосці нейкім змагаром з сістэмай. Марчанка яшчэ першы раз быў засуджаны абсалютна несправядліва — за бойку, у якой ён не ўдзельнічаў зусім. Здарылася гэта ўжо пасля смерці галоўнага „крамлёўскага вурдалака” Сталіна — у 1958 годзе. Нягледзячы на значную „адлігу”, савецкая сістэма правасуддзя заставалася несправядлівай і карнай, а пенітэнцыярная сістэма дзікунскай і сярэднявечнай у горшым сэнсе. У Карагандзінскім канцлагеры Марчанка спазнаў усю яе жудасць, пасля чаго наважыўся на ўцёкі. Яны фактычна ўдаліся. Год ён хаваўся і жыў без дакументаў, пасля чаго пастанавіў перайсці савецка-іранскую мяжу. Пры яе пераходзе Марчанку ўсё ж злавілі, пасля чаго судзілі ні больш, ні менш — па крымінальным артыкуле за „здраду радзіме” — і прысудзілі яшчэ 6 гадоў канцлагера. З гэтага пекла Марчанка выйшаў ужо перакананым дысідэнтам і антысаветчыкам, пасля чаго зблізіўся з маскоўскай інтэлігенцыяй. У 1967 годзе ён напісаў кнігу „Мае паказанні”, якая стала яго сапраўдным духовым подзвігам. Анатоль Марчанка падрабязна расказаў пра ўсю сутнасць савецкай карнай і катавальнай сістэмы. Яго кніжка выходзіла самвыдатам, а потым за мяжой на розных еўрапейскіх мовах. Гэтага Марчанку саветы дараваць не маглі, да канца жыцця праваабаронцу судзілі яшчэ пяць разоў па розных крымінальных „палітычных” артыкулах. Ён не зламаўся, быў паслядоўным змагаром з антычалавечай камуністычнай сістэмай, адмовіўся ад эміграцыі і ўрэшце на алтар свабоды іншых паклаў сваё жыццё. Ужо ў час перабудовы, у жніўні 1986 года Марчанка абвясціў бестэрміновую галадоўку з патрабаваннем вызваліць усіх палітвязняў у СССР. Галадоўка доўжылася ажно 117 дзён, пры тым дысідэнта гвалтоўна кармілі сумессю, што было па сутнасці цяжкім катаваннем. Пасля спробы выхаду з галадоўкі Марчанку стала кепска і неўзабаве ён памёр ва ўзросце 48 гадоў. Яго смерць падштурхнула Гарбачова і іншых крамлёўскіх кіраўнікоў пачаць вызваляць палітычных вязняў. У родным горадзе Анатоля Марчанкі Барабінску Навасібірскай вобласці дагэтуль няма вуліцы яго імя, затое ёсць вуліца крывавага Дзяржынскага і многіх іншых камуністычных „вампіраў”. А вуліцы імя Марчанкі, помнікі яму і такім як ён, павінны быць у розных гарадах Расеі, а таксама Украіны, Беларусі.

У беларусаў таксама не бракавала волатаў духу і змагароў з савецкай імперскай сістэмай. Адна Ларыса Геніюш чаго вартая. На мінулым тыдні сучасныя беларускія патрыёты па традыцыі ўшанавалі яе памяць у Зэльве. Але колькі яшчэ забытых імён тых, хто ахвяраваў сваёй свабодай і жыццём. Таксама на мінулым тыдні споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння паэта і дысідэнта Самсона Пярловіча з Навагрудчыны. Гэта ён не пабаяўся кінуць выклік у твар аднаму з кіраўнікоў карнай сістэмы ў БССР Лаўрэнцію Цанаву. За антысталінскі беларускамоўны верш тады Пярловіча засудзілі да 10 гадоў савецкага канцлагера. Сваіх поглядаў ён не выракся і да канца жыцця заставаўся беларускім патрыётам і антысаветчыкам. Але вельмі прыкра і сумна, што сёння ў Навагрудку ніхто не ведае нават дзе магіла гэтага выдатнага чалавека, па сутнасці ён забыты няўдзячнымі землякамі. І такая вось „памяць” пра многіх дысідэнтаў...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# У Зэльве ўшанавалі памяць Ларысы Геніюш

9 жніўня — дзень нараджэння найвялікшай паэткі Беларусі Ларысы Геніюш (1910-1983), жанчыны, якая прайшла праз сталінскія катаванні і допыты, якая да апошніх дзён свайго жыцця заставалася непераможнай і мужнай дачкой сваёй Бацькаўшчыны. Не за гарамі той час, калі яе імя будуць насіць вуліцы і плошчы Беларусі, будуць стаяць ёй помнікі, у Зэльве адкрыецца яе музей, а сама паэтка будзе рэабілітавана. Ёй напісаны тысячы паэтычных радкоў, многія ўжо выдадзены і перавыдадзены, але сотні яшчэ знаходзяцца ў дзяржаўных і асабістых архівах. Прыйдзе час, і ўся творчая і эпісталярная спадчына паэткі будзе выдадзена поўным зборам твораў. У дзень нараджэння Ларысы Геніюш нагадаем яшчэ раз некалькі патрыятычных твораў паэткі. Іх павінен ведаць кожны беларус на памяць.

* * *

Адзінай мэты не зракуся,
І сэрца мне не задрыжыць:
Як жыць — дык жыць для Беларусі.
А без яе — зусім не жыць!

* * *

Ці мо сэрца малое мае,
Ці мой дух неузлётны і вузкі? -
Для Цябе толькі, Краю мой, б'е,
Для Цябе, мой Народ Беларускі!

* * *

Мая мова — як шчасце на вуснах,
Хвалявання гарачы прыбой.
Можа быць, на чужой засмяюся,
Ўсё ж заплачу з тугі на сваёй.

* * *

Хай славіцца наш беларускі род -
Душой з вясны і воляю са сталі,
Каб з гнёздаў нам не пеўнікі на плот,
А горда арляняты вылятали!

* * *

Не згінай мяне, я не сагнуся,
Не баюся ні страхаў, ні зла.
Нездарма я з зямлі беларускай
Непахіснай сасною ўзрасла.

* * *

Народнае шчасце мы выкупім ў бoі,
Пад вёсны засеем зялёную рунь -
Шумець будуць нівы над вольнай Дзвіною,
Над Бугам, над Нёманам: „Жыве Беларусь!”




У суботу, 11 жніўня, у Зэльве ўшанавалі найвялікшую беларускую паэтку і змагарку, вязня сталінскіх лагераў, дысідэнтку Ларысу Геніюш (1910-1983). Ушанаванне пачалося паніхідай у Зэльвенскай Свята-Троіцкай царкве, якую па-беларуску правёў яе настаяцель айцец Георгій Субаткоўскі. Каля помніка Ларысы Геніюш, які знаходзіцца на тэрыторыі царквы, кіраўнік Гарадзенскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Валянцін Дубатоўка прыгадаў апошні год жыцця паэткі, лячэнне яе ў гарадзенскай бальніцы. Пісьменнік Сяргей Чыгрын распавёў пра новыя факты з біяграфіі Ларысы Геніюш, а таксама тых людзей, якія некалі з ёй сябравалі і да сённяшніх дзён заставаліся невядомымі. На Зэльвенскіх гарадскіх могілках, на магілу Ларысы і Янкі Геніюшаў былі ўскладзены кветкі і запалены лампадкі. Наталля Карповіч з Гародні прачытала некалькі патрыятычных вершаў паэткі.

Барыс БАЛЬ, Беларускае Радыё Рацыя

# In Memoriam Хведар Нюнька 1928-2018

15 жніўня 2018 года ня стала Хведара Нюнькі, сябры Прэзыдыюма Рады БНР, шматгадовага лідара беларускае меншасьці ў Літоўскай Рэспубліцы.

Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла заявіла:

«Хведар Нюнька быў сябрам Прэзыдыюму Рады БНР, быў вельмі адданым патрыётам-беларусам, і ўся дзейнасьць, якую я бачыла ў Вільні, была арганізаваная ім. Ён абсалютна ўсюды быў прысутны, меў добрыя стасункі зь літоўскім урадам, дзейнічаў эфэктыўна. Зь вялікім сумам даведалася пра ягоную сьмерць»

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі выказвае свае шчырыя спачуваньні родным і блізкім Хведара Нюнькі.

* * *

Хведар Нюнька нарадзіўся ў вёсцы Алешавічы ў Мастоўскім раёне цяперашняй Гарадзенскай вобласьці. У 1936 годзе ягоная сям'я пераехала ў Шчучын, а ў 1943 годзе — у Вільню.

У 1948 годзе Х. Нюнька скончыў расейскую гімназію імя Чарняхоўскага, а 1953 годзе — лясны факультэт Летувіскай сельскагаспадарчай акадэміі.

Да 1959 году ён працаваў паводле спэцыяльнасьці інжынэрам, пасьля чаго цягам 35 гадоў да 1992 году працаваў галоўным адмыслоўцам па каштарысах у праектных будаўнічых інстытутах Вільні.

З 1980-х гадоў Хведар Нюнька вёў актыўную грамадзка-культурную працу па адраджэньні беларускасьці ў Летуве. З 1989 па 2014 гг. узначальваў Таварыства беларускае культуры ў Летуве.

З 1997 г. быў сябрам прэзыдыюму Рады БНР.

www.radabnr.org



Балюча і сумна зрабілася на душы і сэрцы. З Вільні надышла сумная навіна пра смерць аднаго з веліканаў беларускай справы Хведара Нюнькі — чалавека, для Якога беларускасць вызначыла Яго асабісты шлях у нашай зямной прасторы. Беларускасць была Яму жыватворнай крыніцай для веры ў незалежную і дэмакратычную Беларусь. Хведар Нюнька, хаця сам жыў і працаваў у Вільні, у сваіх думках і дзеяннях хваляваўся за беларусаў раскінутых па ўсім свеце. Ён дасканала разумеў, што мы, беларусы, павінны дапамагаць адзін аднаму. Быў Ён вялікім сябрам «Нівы» і ўсіх беларусаў Беласточчыны. Збіраў падшыўкі нашага тыднёвіка для беларусаў Віленшчыны, а камплекты перадаваў таксама ў Рэспубліку Беларусь, нават у Таварыства беларускай мовы. І калі ў адрас «Нівы» былі накіраваны пракурорскія абвінавачанні, уключыўся ў яе абарону перад польскімі ўладамі. Сам потым з падобнымі абвінавачваннямі мусіў змагацца ў сябе. Гэта моцна падкасіла Яго, адмоўна паўплывала і на здароўе. Вельмі любіў прыязджаць да нас, арганізаваў прыватныя паездкі ў падляшскія мясціны. Аднак значна часцей шляхі і дарогі вялі нас, беларусаў Беласточчыны, да Яго, да беларускіх месцаў і людзей Вільні, да гасцявання ў арганізаваных Ім з'ездах беларусаў Прыбалтыкі, ці проста на беларускіх вечарынах. А Яго прыватная кватэра была прыстанішчам і аазісам для разважанняў пра беларускія справы — і добрыя, і набалелыя, пра супольнасць лёсу і гісторыі беларускай Гарадзеншчыны, Віленшчыны і Беласточчыны ў палітычна-культурна-грамадскім вымярэнні. З усім гэтым Спадар Хведар паспяваў спраўляцца. Вандруючы па Вільні

працяг ☞ 10

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# Знаёмыя твары на Панцеляймона







**— Палічыць цяжка, колькі было ў Семяноўцы фэстаў «на Панцялеймона»! А шыкуем і новыя свойскія імпрэзы, — кажа Галена-Марыёля Рэент, дырэктарка нараўчанскага Гміннага цэнтра культуры, арганізатара народнага фэсту 9 жніўня ў Семяноўцы. — Цыклічная, чарговая гэта наша сустрэча, якая збірае сваякоў і блізкіх. У сувязі з прыхадскім святам, але і народнае гулянне. Вельмі цешымся, што прыйшло так многа людзей. Вялікі сантымент, гарачыя рэакцыі. А праз тыдзень запрашаем сардэчна ў Нараўку, будзе канцэрт камернага аркестра з Гродна і канцэрт нашага суседа з Пасек Міхала Скепкі, саліста варшаўскай аперэты. А наступнае свята — гмінныя дажынкі, дзе будзе канцэрт і дзе ўсе жыхары Нараўчанскай гміны, пераважна салэцтвы, прымаюць удзел. З кожным годам ангажуецца штораз больш людзей. Будзе многа конкурсаў, між іншым, на вянкі і на перапёлку, будуць таксама неспадзеўкі. Будзе вясковая фота-будка... Свае стэнды будуць рыхтаваць паасобныя салэцтвы, а ёсць чым пахваліцца вёскам Нараўчаснкай гміны...**

На фэст, які кончыцца народным гуляннем, у дзень святога велікамучаніка Панцеляймона, лекара і аздараўляльніка з Нікадзіміі (+305 г.), апекуна могільнікавай капліцы Семяноўскага прыхода Юрыя Пераможцы збіраюцца тлумы. Хаця 9 жніўня ў календары найчасцей будні дзень, як сёння — чацвер. Але цяпер у Семяноўку нават у будні дзень не даедзеш. Так як і ў гмінную Нараўку. З Беластока трэба дабірацца праз павятовую Гайнаўку, бо ПКСу ў заднім коле сучаснага аўтобуса справы вяскоўцаў з-пад пушчы. Нават калі тутака Семяноўскае вадасховішча, пабудаванае дзеля «адпачынку народу».

Сёння галоўны госць — Юрка Шыманюк. Ён вядзе прыватны сайт siemianowka.pl. Там напісана: „Вадасховішча Семяноўка і яго наваколле, асабліва Нараўчанская гміна гэта краіна прыгажосці, міру, шчасця і некранутай прыроды, дзе час цягнецца павольна і ўсё дзякуючы мясцовым жыхарам, а не эколагам». Юрка Шыманюк піша «тутэйшым» па-польску: «Люблю наш край, старонку гэту, дзе я радзілася, расла, дзе першы раз спазнала шчасце, слязу нядолі праліла...», — як пісала калісьці Канстанцыя Буйло (тлустым шрыфтам Юрка паказвае акцэнт, каб палякі ведалі, як гэтыя словы гучаць). «Я таксама кахаю гэтае месца, дзе я нарадзіўся і вырас, дзе я ўпершыню сустрэўся са шчасцем і праліў слязу ў цяжкі час — Семяноўку і ўсю Нараўчанскую гміну, у Гайнаўскім павеце. У Падляшскім ваяводстве. Зараз я жыву ў Беластоку, — пісаў нейкі час таму (цяпер ён у сваёй роднай вёсцы). — Спадзяюся, што калісьці зноў стану жыць у маёй роднай мясцовасці, распаложанай у маляўнічых і часта недаацэненых баках нашай краіны». Пры праектаванні і стварэнні гэтага сайта не было і няма прыбытковай мэты. Кіравала мною толькі адна мэта: даць што-небудзь для маёй «малой Радзімы», маёй бацькаўшчыны, якая мяне выхавала і сфармавала. Гэта даследаванне таксама крок на шляху, каб знайсці свае карані. Тэксты становяць спалучэнне навуковых абследаванняў і легенд, міфаў і аповедаў мясцовага насельніцтва. Частка аповедаў сабрана маім святой памяці бацькам, які на працягу пару дзесяткаў гадоў працаваў у гэтых баках як паштальён». Юрка Шыманюк пры дапамозе Управы Нараўчанскай гміны, выкарыстоўваючы сродкі з Праграмы падтрымкі сельскіх абшараў пасля далучэння да ЕС у рамках Праграмы сацыяльнай інтэграцыі і фінансавай падтрымцы спонсара — Тартака Семяноўка, апублікаваў кнігу «Piękno Ziemi Narewkowskiej. Współczesność, historia, legendy i mity». У кнізе апынуліся тэксты, якія змяшчаюцца на гэтым сайце, але толькі з невялікай колькасцю фатаграфій.

А ў сённяшні адвячорак Юрка Шыманюк у самаўрадавай святліцы, перад фэстам, запрэзентуе мультымедыйны паказ «Мая Семяноўка і яе жыхары».

— Я і далей жыву па вуліцы Ліпавай — яна так і заўсёды звалася. Наша вёска даўней мела цікавую планіроўку: складаецца з трох частак, адна да адной пад прамым вуглом. У цяперашні час пашырана яшчэ на чарговыя вуліцы. Найпрыгажэйшы фрагмент — вуліца Ліпавая, пасярэдзіне Семяноўкі, бягучая з поўначы на поўдзень, раней брукавана, з прахалодным шпалерам ліп. Сёння вуліца заасфальтавана, а ліпы прыцярэбленыя. Амаль да канца XX стагоддзя, да ўвядзення назваў вуліц, жыхары выкарыстоўвалі мясцовыя назвы асобных частак Семяноўкі. Цяперашняя вуліца Школьная, паміж перасячэннем вуліцы Ліпавай да ватыўнага крыжа на выхад у Семенякоўшчыну называлася Новае Сяло. Яе фрагмент да крамы Ярашукоў, пры водаахоўным вале — Усадзьба. Перакрыжаванне вуліц Ліпавай і Школьнай называлі Грудок. Вуліца Ясянёвая была Гулачкай, у Польная — Булавай Горкай. Вуліца Ціхая была Пазаклунямі. Некалькі будынкаў і пляц былога сельскагаспадарчага гуртка, побач жвіровай дарогі, што вядзе да могілак, называліся Пашчатка (Пяшчатка)...

Азірнемся вакол гудзячага сёння ад музыкі месца каля былой школы. За царквою Юрыя Пераможцы, раней аколенай старажытнымі ліпамі, відаць славуты мост на Семяноўскім возеры. Усё тут змянілася, і за стагоддзі, і перш за ўсё за апошнія гады. У 1780 годзе вёска была ў маёнтку Нараўка і належала віленскаму біскупу Ігнату Масальскаму. Ад 1787 г. Семяноўка была ў руках Яна Вянгерскага (кракаўскага шамбеляна), якому некаторыя прыпісваюць узнясенне мураванай царквы святога Юрыя, хоць іншыя кажуць, што царкву пабудавалі яшчэ ў XVII стагоддзі, у час Масальскіх або Станіслава Карпа. Мураваную царкву з драўлянай у той час званіцай і агароджай рамантавалі перад 1854 г. (мабыць у 1848 г., гэтая дата віднее на драўляным крыжы, які да гэтай пары стаіць перад царквою), у 1894 г. рамантавалі ўсю царкву. Ад другой паловы XX стагоддзя да нашага часу хроніку прыхода і царквы вядзе айцец Мікалай Шэбелян.

— Я б лічыў, — кажа Юрка Шыманюк, — што наша царква яшчэ старэйшая. — Семяноўка была заснавана да 1634 г. (1632 г.?) як вёска і фальварак у маёнтку князёў Масальскіх (як паселішча, верагодна, існавала значна раней). У гэты перыяд мела падвойную назву «Siemianówka alias Narewka», таму што яна належала да маёмасці Нараўка. Праз некалькі гадоў быў пабудаваны тут двор, які ў 1666 г. быў перададзены яго ўладальнікам Станіславам Карпам Войцеху і Магдаліне Пшыходзкім. У той час двор быў вельмі сціплы. Апісанне змяшчае двор на тэрыторыі цяперашняй часткі Семяноўкі, што называецца Усадзьба, і якая часткова знаходзіцца пад вадой. На карце з 1932 г. можам убачыць рэшткі ўсадзьбы: рыбную сажалку (тут названа кузняй) разам з каналам, спалучаючым яе з ракой Падрэчкай, і незавершаны канал, які меў злучаць яго з ракой Нарвай каля Біндзюгі, даязную дарогу да двара, а таксама штучныя насыпы недабудаваных дарог у напрамках на ўсход і захад...

На паказе здымкаў, дзе адзначаны вёска, асобы і моманты з іх жыцця, сярод разгарачанага тлуму маладых і старых, што пазнавалі сябе і знаёмых на вялікім экране, яны — героі семяноўскага жыцця. Новыя выявы выклікалі радасны гул або сумны ўздых, калі каго з герояў няма ўжо ў жывых. Як казаў калісь бацюшка Мікалай Шэбелян: больш іх ужо там, на ўзгорку, у цішы... А вось, напрыклад, «тут Кулеш»! З паловы XX стагоддзя, калі быў хлопчыкам, і цяпер. Славамір Кулеша даклаўся да Юркавага збору вельмі салідна, з сямейнымі здымкамі. Адразу выклікаюцца былыя ўявы: у 1907 г. адным з самых багатых сялян у Семяноўцы быў Канстанцін Мароз сын Ануфрыя, былы асочнік Белавежскай пушчы. Захаваны Славамірам Кулешам (праўнукам Канстанціна Мароза) акт уласнасці паказвае, што Канстанцін Мароз купіў у 1907 годзе 14,32 гектара зямлі ў Семяноўцы. Ёсць і царскі акт уласнасці: «Wypis z aktów Grodzieńskiego Archiwum Notarialnego z księgi wołkowyskiego powiatu roku 1907, str. 315, nr 125. 1 czerwca 1907 r. u bielskiego notariusza (...) stawili się: kupiec i pełnomocnik Kelman Mozja s. Michała, działający z ramienia dworu carskiego rzeczywisty radca prawny Włodzimierz Łuszczyński s. Anzelma, mieszczanin Jan Wolczyński s. Fabiana i chłop Konstanty Moroz s. Onufrego — mieszkaniec wsi Siemianówki, wołkowyskiego powiatu...».

Быццам яны ўсе ставіліся тут разам — пад музыку беларускіх вядомых песень, пачынаючы з «Люблю наш край», сходзяцца і расходзяцца свойскія лікі — у царкве, у школе, на полі, на Нарве,

працяг ☞ 11

29 ліпеня ў нядзелю на спартыўнай пляцоўцы паміж Крывятычамі і Морам адбыўся трэці ўжо фэст „На мэжы”, арганізаваны Арлянскай і Чыжоўскай гмінамі. Фэст папярэдзіла ўрачыстае адкрыццё абноўленай крывятыцкай вуліцы, а ў дзевяць гадзін раніцы адбыўся сяброўскі футбольны матч Орля — Чыжы. У чатыры гадзіны пасля поўдня вядучая мерапрыемства Марыёля Герман-Петручук звярнулася да публікі, якой сабралася каля двухсот чалавек:

— Неба адно ёсць над намі, а мы, як каханыя дзеткі, жадаем бязмежжаў, бязмежжаў. Песняй „Адно для ўсіх неба” вітаю ўсіх гасцей неразлучных вёсак Мора і Крывятыч. Сёння, дакладна тут, на мяжы паміж двума паветамі — Бельскім і Гайнаўскім — чарговы ўжо раз пройдзе адзінае ў сваім родзе свята — фэст „На мэжы”. Сённяшняе мерапрыемства невыпадкова ладзіцца ў гэтым месцы, якое добра падкрэслівае сяброўскую сувязь, якая завязалася раней і далей развіваецца — паміж дзвюма суседнімі гмінамі — Чыжоўскай і Арлянскай. І хаця вёска Мора ляжыць у Гайнаўскім павеце, а Крывятычы ў Бельскім, то мяжа паміж імі амаль незаўважная. Яны функцыянуюць каля сябе як адзінства ў адным культурным крузе пад адным і тым жа самым небам і сонцам, дакладна так, як мы пачулі ў прывітальнай песні. І між іншым, з гэтай прычыны, каб падкрэсліць унікальнасць гэтай сітуацыі, улады абедзвюх гмін рашылі зладзіць фэст сваім жыхарам, каб яны маглі яшчэ мацней інтэграваць і пасвяткаваць па-суседску ў сваім родным куточку, найпрыгажэйшым спосабам, разам з усходнеславянскімі песнямі, несумненна вядомымі мясцоваму насельніцтву. Музыка заўсёды і ўсюды яднае людзей і не мяшае гэтаму нават агульнавядомая мяжа.



■ Калектыў «Вэрвачкі» (няпоўны склад) перад выступленнем

# Трэці фэст „На мэжы”



Затым вядучая ад імя арганізатараў прывітала публіку і ўсіх запрошаных гасцей. Мерапрыемства афіцыйна адкрылі войты абедзвюх гмін.

Чыжоўскі войт Юры Васілюк сказаў:

— Szanowni goście, kochani mieszkańcy — kłaniamy się bardzo nisko! Witając na kolejnym spotkaniu w Morzu, spotkaniu wyjątkowym, niezwyczajnym „Na meży”. Od kilku lat na pograniczu Krywiatycz i Morza zagościł wspaniały, niezwykły festyn. I mam nadzieję, że będziemy go cały czas kontynuowali, bo jak widzę Państwa, to mi serce rośnie i myślę sobie, że warto było to wspólne przedsięwzięcie zorganizować. Cieszymy się z tego, że udaje nam się współpracować. Z całego serca życzę Państwu, by to przedsięwzięcie było wyjątkowe, by towarzyszyły nam tylko i wyłącznie miłe wspomnienia z poprzednich festynów...

Арлянскі войт Пётр Сэльвесюк сказаў даволі каротка і па-свойму:

— Айцец настаяцель, спадары старосты, мае дарагія! Вітаем вас вельмі сардэчна на памежжы дзвюх гмін розных паветаў, якія, аднак, маюць многа супольнага. Гэта рэдкая ініцыятыва, дзе дзве гміны робяць адзін фэст. У прынцыпе яны канкуруюць, а мы супрацоўнічаем. Каб не прадаўжаць — жадаем вам удачы і пазітыўных уражанняў.

Вядучая запрасіла на сцэну Віктара Шведа, паэта родам з Мора, які прачытаў свой верш-неспадзяванку.

Былі гучныя воплескі публікі, а паэту — сувеніры і віншаванні ад абодвух войтаў. Думаю, што ў час кароткай пабыўкі ў Моры заслужанаму паэту прыгадаліся многія ўспаміны. Вялікае Вам дзякуй, зямляк, спадар Віктар Швед!

Пачалася мастацкая частка мерапрыемства. Першым на сцэну выйшаў калектыў „Вэрвачкі” з Орлі. Чарговымі выступоўцамі былі „Фэрмата” з Орлі, пеўчая група з Мора, Студыя песні Гайнаўскага дома культуры, „Арляне” з Орлі, „Малінкі” з Малініка, „Верасы” з Чыжоўскай гміны, „Незабудкі” з Курашава, „Чыжавяне” з Чыжоў ды „Калінка” з Беластока. На жаль, не даехаў калектыў „Забабоны” з Мінска.

У гадзінах 20.00-23.00 да танцавальнай забавы граў дыджэй Поль Джонс.

Публіку не напалохала надвор’е — парны і бурлівы тыдзень. Калі ішоў дождж, людзі хаваліся пад парасонамі, а калі прыгравала сонца, таксама прыдаваліся парасоны. Пажарнікі-добраахвотнікі паставілі побач вадзяную курціну, якая радавала дзяцей. Была таксама секцыя з некалькімі буйнымі трактарамі і іншымі машынамі. Арганізатары задбалі і пра пачастунак запрошаных гасцей у вясковай святліцы, а калектывы пасля выступаў частаваліся пад палаткай бігасам. Была малая гастраномія ды гандлёвыя латкі. Наймалодшыя ўдзельнікі мерапрыемства сваволілі ў парку з атракцыёнамі.

Як я заўважыў, сюды на фэст прыцягвае не так інтэграцыя, але, як заўсёды ў нас, беларуская музыка — кожны мог нешта сабе ўпадабаць. Значную частку публікі склалі прыезджыя з далейшага староння. І фэст, яго праграма, усім падабаецца і людзі яго чакалі. Мяркую, што калі б крыху больш калектываў, то „На мэжы” можа стаць святам такога ж рангу, як карнянская Ганна.

Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**



■ Стужку на адноўленай вуліцы перарэзваюць — злева: старшыня Рады Арлянскай гміны Аляксандр Клін, бельскі віцэ-староста Пётр Божка, войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк, бельскі староста Славамір Ежы Снарскі

**Віктар Швед**

## Маё Мора

*Вёска Мора існуе з 1568 года*

Айчыннай вёсцы акурат
Гадоў чатырыста пяцьдзясят.
У вёску Мора я ўлюбёны.
Мясцовыя мы, аўтахтоны.

Я тут сярод сваіх сялян
Апошні Шведаў магікан.
Сцвярджаю гэтае з пакорай:
Знікае Шведаў род у Моры.

І хоць апошні я, аднак
Заўжды тутэйшы, Ваш зямляк.
І цешуся тако ж няспынна,
Калі сумуем гадавіны.

Хачу ўсіх шчыра прывітаць,
Мора багацця Вам жадаць
І Мора шчасцейка таксама,
Каб мяне ўспомнілі часамі...

**Мора, 29 ліпеня 2018 года.**

# Памятаць аб нескораных

**Беластачане адзначылі 75-ю гадавіну з дня выбуху паўстання ў гета. Галоўныя ўрачыстасці прайшлі пад помнікам Героям гета. На плошчы імя Мардэхая Тэнэнбаўма прамаўляў, між іншым, прэзідэнт горада Беластока Тадэвуш Трускаляскі ды нашчадкі ацалелых ад Халакосту беластоцкіх яўрэяў. У тым месцы таксама прагучала малітва за памерлых — кадыш.**



16 жніўня ў 12 гадзін у Беластоку завылі сірэны і раззваніліся касцельныя званы ў знак памяці і ўшанавання гераізму яўрэйскіх паўстанцаў. Гета ў Беластоку немцы стварылі ў ліпені 1941 года. За яго мурамі зачынілі амаль 50 тысяч людзей. Паўстанне пад кіраўніцтвам Мардэхая Тэнэнбаўма і Данеля Мошкавіча пачалося ноччу з 15 на 16 жніўня. Прычынаю яго выбуху была інфармацыя аб планаванай ліквідацыі беластоцкага гета. Паўстанне было арганізавана Антыфашысцкай ваеннай арганізацыяй. Каля 300 яўрэйскіх паўстанцаў падняло няроўны бой з нямецкім акупантам. Яўрэйскія паўстанцы распараджаліся невялікай колькасцю зброі. Немцы мелі танкі і артылерыю. Фашысты падпалілі гета. Некалькі соцень яўрэяў былі расстраляныя на месцы былога ваеннага палігона пры гродзенскай шашы. Каля 10 тысяч яўрэяў былі выведзены на беластоцкі вакзал, а адтуль высланы ў канцлагеры ў Трэблінцы, Майданку, Аўшвіц ды іншыя. Ліквідацыя гета скончылася 20 жніўня 1943 года. Некаторым паўстанцам удалося ўцячы ў лес, дзе дачакалі канца вайны. З больш чым 60 тысяч беластоцкіх яўрэяў ацалелі ўсяго некалькі соцень. Нашчадкі беластоцкіх яўрэяў, якім удалося перажыць Халакост, прымалі ўдзел ва ўрачыстасцях у Беластоку. Маці Ірыт Сагуй жыла ў Беластоку і як адна з нямногіх перажыла вайну.

— Яшчэ ў 2003 годзе ў час юбілейнай урачыстасці — 70-й гадавіны выбуху паўстання ў беластоцкім гета, мая мама тут была і разам з вамі ўспамінала сваіх родных, — сказала пасля ўрачыстасці Ірыт Сагуй. — Мама, Ева Крацоўская, была ў гета да канца. З двума сябрамі ўдалося ёй уцячы і знайсці бяспечнае месца на вуліцы Фабрычнай, 9. Пазней хавалася ў лесе з партызанамі. Пасля вайны мы жылі ў Гародні, а пазней пераехалі ў Ізраіль. Бацькі і іх знаёмыя ўвесь час пра гэта казалі — пра Беласток, што яны прайшлі, і пра гета, і пра сем'і. Я ўсё гэта чула і заўсёды прыязджала ў Беласток. Зараз мой унук, якога ніхто не намаўляў, прыехаў разам са мной. Хацеў пабачыць гэтае месца — радзіму яго дзядоў.

Святкаванні 75-й гадавіны з дня выбуху паўстання ў беластоцкім гета пачаліся ў чацвер з ускладання кветак да помніка Вялікай сінагогі, якую 27 чэрвеня 1941 годзе фашысты падпалілі з дзвюма тысячамі яўрэяў, якіх закрылі ў святыні. Удзельнікі ўрачыстасці запалілі таксама знічы ў месцы галоўнай брамы ў беластоцкае гета, на скрыжаванні вуліц Мальмеда і Бялуўны. Галоўныя ўрачыстасці прайшлі на плошчы імя Мардэхая Тэнэнбаўма. Тут загінула 3,5 тысячы яўрэяў, якія жылі ў гета.

— Яўрэі з Беластока адгукнуліся на заклік «Змагайся за сваё жыццё!». Так як паўстанне Макавеяў, так і паўстанне ў беластоцкім гета застанецца гонарам для ўсіх яўрэяў, — сказаў у час святкаванняў Лео Меламед. — Мы памятаем і ніколі не забудзем. Наша жыццё заўсёды было звязана з памяццю пра мінулае, а мінулае можна ўспамінаць толькі тады, калі існуе перад намі светлая будучыня.

Менавіта юрыст і фінансіст Лео Меламед быў ганаровым госцем сёлетніх святкаванняў. Сам ён нарадзіўся ў 1932 годзе ў Беластоку. Лео і бацькі перажылі Халакост і з'ехалі ў Злучаныя Штаты. Меламед нагадаў трагічную гісторыю сваёй сям'і і страшную гісторыю беластоцкіх яўрэяў падчас Другой сусветнай вайны.







Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел прадстаўнікі дзяржаўных і мясцовых органаў улады, пасольстваў Ізраіля, Германіі і Расіі, група былых яўрэйскіх жыхароў Беластока і іх нашчадкі. Прэзідэнт Беластока падкрэсліў уплыў яўрэяў на развіццё горада.

— Уплывы яўрэйскай культуры немагчыма сцерці. Сёння, у вольнай краіне, схіліўшы галаву ля помніка, варта таксама згадаць папярэдняе пакаленне яўрэяў-беластачан. Без іх, без іх цяжкай працы не было б Беластока, які мы ведаем.

Галоўны рабін Польшчы Міхаэль Шудрых адзначыў, што памяць пра тыя падзеі павінна жыць стагоддзямі.

— Адзін мой знаёмы некалькі гадоў таму гаварыў з доктарам Эдэльманам. Ён спытаўся ў яго, ці паўстанне гэта выбар смерці. Эдэльман сказаў: не, гэта быў спосаб жыцця, пакуль мы не памрэм. Гэта вельмі мудрае. Памяць пра тых, хто памёр у беластоцкім гета з'яўляецца доказам для ўсіх яўрэяў, што ніколі нельга губляць надзеі. Чалавек заўсёды мае выбар — часам паміж тым, што добрае, а тым, што дрэннае, а часам паміж злом і меншым злом. Але выбар заўсёды ёсць. Мелі яго таксама яўрэі беластоцкага гета. Гэта навука, якая плыве з тых падзей.

У рамках святкавання 75-й гадавіны паўстання ў беластоцкім гета ў форме кніжкі выйшлі занатоўкі Давіда Шпіро. Гэта ўнікальныя запіскі маладога беластоцкага яўрэя з часоў Другой сусветнай вайны. Выпадкова знойдзены дзённік атрымаў новае жыццё дзякуючы Галерэі Сляндзінскіх у Беластоку. Нататкі Давід Шпіро вёў з 1939 года па 1943 год, калі пачалося паўстанне ў гета. Мяркуецца, што яго аўтар не перажыў вайны.

Святкаванні 75-й гадавіны паўстання ў беластоцкім гета завяршыліся канцэртам на Плошчы Касцюшкі пад загалоўкам «Галасы знікаючага свету».

Пасля паўстання ў варшаўскім гета, паўстанне беластоцкіх яўрэяў было адным з найбольш моцных узброеных акцый супраць фашыстаў. Людзі замест таго, каб паслухмяна ісці ў лагеры смерці, выбралі змаганне за годнасць.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі




Фота Ганны Кандрацюк

# Паэт – селебрыці!

— Дзяўчаты, як вы прыгожа сёння выглядаеце! — гаварыў заўсёды на прывітанне паэт. І не дзіва — ён, як ніхто з сучасных, стварыў палымяныя эротыкі, вершы пра каханне.

Яго аўтарскія сустрэчы з часам станавіліся жывымі легендамі. Землякі віталі яго як зорку першай велічыні, селебрыці. Яго поспех натхняў да самаразвіцця, да творчай прыгоды і вялікага свету. І адначасова з'яўляўся крыніцай гонару, патрыятызму.

Алесь Барскі!

Так, пра яго, мова.

Стоячы пры яго хаце ў родных Бандарах, мы ўзіраліся ў даліну ракі Нарвы, ахінутай нейкай загадкай і тайнай. Гэта ёй паэт давяраў нявыказаныя мары. Вобразы роднай прыроды ніколі не пакідалі паэта. Яны прысутныя ў яго творах, жыццёвых выбарах. Найбольш уражвае сувязь са светам дрэў, а на першым месцы — зялёны дуб. Дуб не толькі цар пушчы, гэта сімвал мужчынскай сілы, моцы, трываласці.

Верш-песня «Мой Беластоцкі край» — нефармальны гімн беларусаў Беласточчыны. Яго можам пачуць на радыё, фестывалях, беларускіх фэстах.

Алесь Барскі (сапраўднае імя і прозвішча: Аляксандр Баршчэўскі) нарадзіўся ў 1930 годзе ў Бандарах. Друкавацца пачаў з 1956 года. Аўтар паэтычных зборнікаў «Белавежскія матывы» (Беласток, 1962), «Жнівень слоў» (Беласток, 1967), «Мой бераг» (Мінск, 1975), «Блізкасць далёкага» (Беласток, 1983), «Лірычны пульс» (Мінск, 1987).

Пераклаў на польскую мову, між іншым, паэму Янкі Купалы «Яна і Я». Аўтар зборніка абразкоў, артыкулаў, дарожных нататак «З пабачанага і перажытага» (Мінск, 1992).

Шмат яго лірыкаў можам знайсці ў інтэрнэце, таму імя паэта вядомае для розных пакаленняў. На Сустрэчах «Зоркі» пра Алеся Барскага апавядалі Яўген Вапа, Валянціна Бабулевіч і Ганна Кандрацюк. А з усіх удзельнікаў найбольш біяграфічных звестак ведаў чацвёртакласнік Міколка Абрамюк з Беластока. Мікола набраў ведаў, калі рыхтаваўся да прадметнага конкурсу па беларускай мове.

Знаёмства з легендарным паэтам-белавежцам папоўнілі жывыя чытанні вершаў у выкананні Яўгена Вапы.

(Зорка)




Малюнак Юстыны Бакуменка

Алесь Барскі

## Імкненне

Стварыць верш прыгожы:  
Як неба бязмежжа,  
Як мары дзяўчыны,  
Як спеў Белавежы.  
Верш просты і шчыры:  
Як сонца праменні,  
Як слёзы дзіцяці,  
Як маці жаданні.  
Стварыць верш балючы:  
Як лёт бліскавіцы,  
Як роспач агоніі,  
Як мукі кахання.  
Даць верш справядлівы:  
Як песні сумленне,  
Як мара шчаслівых,  
Як сонца гарэнне.

## УВАГА КОНКУРС! № 34-18

**У гародзе на кусце**  
**Вясне мячык на хвасце,**  
**Чырваней чырвоных зор —**  
**Смаквіты...**  
**П......**

**(Н. Парукаў)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 2 верасня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 30-2018: гуркі. Узнагароды, наклейкі, выйгралі Вікторыя Гаць і Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Паўлін і арол

Паўлін распусціў хвост і абносіўся як нейкая мадэль па двары.

— Я адзін змагу вас прадстаўляць у свеце, — гаварыў ён, какетліва распасціраючы свой хвост. — Хто яшчэ зможа як я зачараваць прыгожасцю свет? Я адзін! Я — галава, птушыны цар!

— Ну, добра, — умалялі яго мудрыя совы, — будзь сабе прыгажун на ўвесь свет! Памятай аднак жа, што цар — гэта кроў! Каб царстваваць і ўладарыць, трэба царом нарадзіцца.

Але паўлін нікога не слухаў.

— Я адзін сапраўдны цар! — паўтараў ён. — Я ўладар свету!

Пачуў пра ўсё арол і прыляцеў у той двор, дзе наш паўлін апсрыўся ва ўладу. Ён накінуўся на паўліна-дыктатара і абдзёр яго з пуху і пер’я. Пазбаўлены пер’я прыгажун на ляту пакланіўся арлу і засаромлены ўцёк з двара.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*




# Мой Беластоцкі край

Алесь Барскі

Мой Беластоцкі край — мая Айчына!
З табою звязаны мой лёс і доля.
Люблю лясы твае, люблю даліны,
Кахаю шчыра бацькаўскае поле.
Калышашся ў напевах песні роднай
І мыеш твар у промнях залацістых,
І толькі тут я поўнасцю свабодны,
І толькі тут душой заўсёды чысты.
Сямяцічы і Гайнаўка, і Бельск старынны,
Саколка ціхая, зялёная Дуброва,
Любоў да вас — мая адвечная павіннасць
І вернасць матчынай спрадвечнай мове.
Шасціць калоссе у палях шырокіх,
Бурліць крыніца песняю адвечнай,
Звініць нядзельны звон з царквы далёкай,
На роднай Беласточчыне я вечны.
Зямля мая, мой беларускі краю,
Над Нарваю, над Бугам задуменным
Я вольны тут, душой адпачываю,
Мой краю вечны, краю незаменны.

Размалюйце!



# Маляванка з ласём!

**ЛОСЬ** — спрадвечны жыхар на беларускіх прасторах, магутны гаспадар нашых лясоў.

Лад жыцця характарызуецца малой рухавасцю. За дзень лось праходзіць кіламетр-паўтара, а калі дастаткова ежы, то можа перасунуцца ўсяго на 100-300 метраў. Бурая спіна і светлыя ногі робяць яго малазаўважным нават у зімным гайку.

З пачатку жніўня лось пачынае вастрыць рогі аб маладыя дрэўцы, рыхтуецца да шлюбных баёў. У сярэдзіне верасня самцы пачынаюць мычаць, прызываючы суродзіча на схватку за самку. Бойкі самцоў вельмі жорсткія, хаця і непрацяглыя. Калі сілы няроўныя, то слабейшы хутка збягае. Але калі б’юцца два роўныя па моцы самцы, то можа быць бойка да пагібелі.

Размаляваў **Юры Малышэўскі**

Малюнак на аснове верша Міры Лукшы **«Ласяня з Ласінян»** са зборніка «Жывінкі з глыбінкі» (Беласток: «Ніва», 2009).

# Польска-беларуская крыжаванка № 34-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 30-2018:**

Указ, слых, карп, поле, пасеў, леў, Ас, грам, яно, на, блін. Акно, карп, палац, сем, спеў, лоў, ял, пыл, ані, Херсон.

Узнагароды, аўтаучкі, выйгралі **Дам’ян Карнілюк, Вікторыя Гаць** і **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | i... / Łasuch | | Schemat | | | | | |
| | Punkt / Dryblas | Łysy | | | | | Dron | Nogi | |
| | | | | Mięta | | Lato | | Rynek | |
| | Moda | Śmiałek | | | | | | | |
| | Diament | | | | | | | | No |
| | Arena | | Tato | | | | | | |
| | | | | | Okno | | | | |

Да юбілею 60-годдзя «Белавежы»

БЕЛАВЕЖА

Новае выданне

# Адпушчаныя ў вырай думкі

**Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа" выпусціла ў Беластоку новую кнігу „Белавежа": постаці, творы, героі". Аўтар кнігі — кандыдат філалагічных навук, літаратуразнавец з Гародні Ала Петрушкевіч. Кнігу гэту нядаўна атрымаў у Дзятлаве ад самой аўтаркі з аўтографам.**

У прадмове да выдання Ала Петрушкевіч напісала: „У гэтым краі заўсёды было шмат талентаў...". І гэта, сапраўды, так. Беларуская Беласточчына — унікальны край на таленавітых паэтаў і празаікаў, публіцыстаў і драматургаў, гісторыкаў і археолагаў. У ХХ стагоддзі тут нарадзіліся і жылі, стварылі нашу літаратуру Адам Бычкоўскі, Зоська Верас, Станіслаў Грынкевіч, Франук Грышкевіч, Янук Дарашкевіч, Сцяпан Пятэльскі (Арол М.), Яўген Хлябцэвіч, Уладзіслаў Казлоўскі, Сяргей Дубінскі, Уладыслаў Чаржынскі, Мар'ян Пецюкевіч... А потым у беларускую літаратуру і культуру прыйшлі з Беласточчыны і з іншых рэгіёнаў Польшчы Аляксей Карпюк, Арсень Лабовіч, Пятрусь Макаль, Ганна Новік, Яўген Міклашэўскі, Уладзімір Казбярук, Сакрат Яновіч, Алена Анішэўская, Уладзімір Гайдук, Юрка Геніюш, Міхась Шаховіч... На Беласточчыне сёння пражываюць Віктар Швед, Дзмітрый Шатыловіч, Ян Чыквін, Міра Лукша, Юрый Баена, Янка Целушэцкі, Надзея Артымовіч, Жэня Мартынюк, Віктар Стахвюк, Уладзімір Саўчук, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міхась Андрасюк, маладзейшы Юрка Буйнюк. Праўда, у кнігу Алы Петрушкевіч з маладых трапіў толькі Юрка Буйнюк. А добра было б, каб асобны раздзел у кнізе быў прысвечаны маладым, такім як Кацярына Сянкевіч, Віялета Нікіцюк, Юстына Каролька, ну і, вядома ж, Юрка Буйнюк. Гэта вельмі таленавітая беларуская моладзь нашай літаратуры. Трэба быць хоць крышачку паэтам, каб нарадзіліся такія магутныя радкі, як у Кацярыны Сянкевіч:

Няма лякарства — толькі
Дождж цуду
Можа памыць маё сэрца.
Госпадзі,
Развяжы клубок душы.

Наогул, у Беларусі і Польшчы пакуль не з'явіўся вялікі грунтоўны артыкул-рэцэнзія на творы вышэй названых маладых аўтараў. А добра было б, каб і кніжка ўжо стаяла на паліцах пра іх творчасць, бо аўтары маюць свае ўласныя выданні і цікавыя публікацыі ў Польшчы і ў Беларусі. Іх трэба падтрымаць, нават пахваліць, падказаць. Пашанцавала толькі Юрку Буйнюку, яго вершы Ала Петрушкевіч назвала так: „Гэта адпушчаныя ў вырай, да чыйгосьці сэрца, думкі-мроі ці іх водгулле, не сцэментаваныя рыфмай, не падраўняныя, адно далікатна звязаныя рытмам пачуцця". Але аўтарка кнігі прыгадвае і Юстыну Каролька, і Віялету Нікіцюк, і Кацярыну Сянкевіч, якія „толькі ступаюць на белавежскія сцежкі, але ўжо цудоўна разумеюць, куды прыйшлі і хто тут ёсць, і што тут, у гэтай малой вялікай айчыне, для сябе шукаюць і чаго жадаюць". Зразумець можна крытыка і далучыцца да ўсіх пажаданняў маладым, бо ў аснову ўсёй кнігі яе ляжыць шчырае жаданне ў меру сіл дапамагчы нашай літаратуры выканаць яе велічную місію па духоўным абуджэнні нацыі, каб сённяшняя літаратура не страціла набытай у класічны перыяд творчай вышыні. Бо ўсё гэта вельмі хутка адчуваюць чытачы, і, адпаведна, у іх душах узнікае і ўмацоўваецца давер.




Кніга Алы Петрушкевіч складаецца з чатырох раздзелаў. Другі раздзел кнігі прысвечаны жыццю і творчасці Яна Чыквіна. Першы артыкул, напісаны ў снежні 2009 года, больш журналісцкая справаздача, чым літаратуразнаўчы матэрыял. Ён распавядае пра наведванне Янам Чыквіным у снежні 2009 года Гародні і сустрэчу з чытачамі. Але і такі матэрыял можа быць таксама. Другі артыкул, прысвечаны вобразу жыцця і жыта ў вершах паэта. А трэці — рэцэнзія на адну з кніг Яна Чыквіна. Артыкул называецца „У люстэрку адной кнігі". Некалькі разоў прачытаў гэты матэрыял і не зразумеў, пра якую кнігу напісала аўтарка. Адно вядома з матэрыялу, што гэта кніга была прысвечана Яну Чыквіну. Але што гэта за кніга, як яна называецца, калі і дзе яна выйшла з друку — няма ні слова. Проста напісаны матэрыял пра кнігу, а пра якую — няхай здагадваюцца чытачы. Шкада...

Трэці раздзел у кнізе прысвечаны паэзіі „белавежцаў". Ён адкрываецца артыкулам пра духоўны свет паэзіі вясковага, шчырага паэта Уладзіміра Гайдука. Добры матэрыяльчык, як і сам быў паэт.

Пашанцавала Міры Лукшы, бо яна таксама трапіла на старонкі кнігі Алы Петрушкевіч. Міра Лукша — здольная жанчына, паэтка, публіцыстка. Вялікі жыццёвы і творчы вопыт дапамагае ёй ствараць сёння новыя арыгінальныя кнігі розных накірункаў і жанраў. Сапраўды, як піша аўтарка выдання, паэзія Міры Лукшы „надзвычай загадкавая, напоўненая складанай сімволікай". Кожны паэт — загадкавая асоба. Без своеасаблівай загадкавасці не было б сапраўднага творцы. Непасрэднасць, жыццясцвярджальнасць, маральная чысціня і высакароднасць пачуццяў — асноўныя рысы паэзіі Міры Лукшы, якая перадае захапленне прыгажосцю і багаццем чалавечых настрояў, бескарыслівасцю імкненняў і жаданняў.

Міра Лукша з'яўляецца і аўтарам кнігі „Бабскія гісторыі". Пра бабскія гісторыі Міры можна разважаць доўга. Але, калі пра бабскія гісторыі разважвае жанчына — гэта значна цікавей, бо, напрыклад, Ала Петрушкевіч кажа, што большасць вобразаў пісьменніцы аб'ядноўвае тып, але не проста тып, а тып, які вымірае. І працэс гэты няўмольны і незваротны. Таму невыпадкова ў Міры Лукшы героі — людзі сталага веку, „яны ўжо і не жывуць, а дажываюць, але ўсё ж трымаючыся за сваё". Пра такіх і напісала кнігу Міра, таму застануцца яны для нас даволі цікавымі і запамінальнымі.

Услед за Мірай Лукшай пад пяро крытыка ляглі вершы Юрыя Баены — аднаго з таленавітых беларускіх паэтаў Польшчы. Не раз пісаў пра яго кнігі, атрымліваючы задавальненне ад прачытанага і напісанага паэтам. Ала Петрушкевіч разглядае ў кнізе сімволіку руху ў паэзіі Юрыя Баены, найперш у зборніку „Лісты блакітных успамінаў" (1991), а таксама матывы роднасці і адчужэння ў зборніках „Вечар над светам" (1998), і „Крык дзікай ружы" (2003). Гэтыя матывы, як піша спадарыня Ала, пераплятаюцца з іншымі — радасці і болю, шляху і вяртання, надзеі і безнадзейнасці, любові, кахання і нянавісці, дому і бяздомнасці.

Амаль дзевяць старонак у кнізе Алы Петрушкевіч адведзена паэзіі аднаго з маладзейшых беларускіх паэтаў Польшчы Юркі Буйнюка. Найперш, аўтарка разглядае яго кнігу твораў „Самота даждджу" (2009). Пейзажнай лірыцы паэта ўласцівы дасканаласць і філасофскае апісанне карцін прыроды, багацце і разнастайнасць выяўленчых сродкаў і форм адлюстравання рэчаіснасці, роздум і сувязь з жыццём і людзьмі. „Праз усю кнігу назіраем за імкненнем героя да прыгожага, гарманічнага", — піша крытык.

Раздзел „Проза „белавежцаў" пачынаецца аналізам аповесці Сакрата Яновіча „Самасей", у якой скразной лініяй праходзіць матыў вяртання да вытокаў, да сябе. Разглядаючы жанравую разнастайнасць творчасці Алены Анішэўскай, Ала Петрушкевіч падкрэслівае яе „лірычна-філасофскі роздум пра жыццёвы рух, пра змены, што адбываюцца навокал" — такая адметная рыса многіх твораў пісьменніцы. І ў цэлым, творчасць Алены Анішэўскай — гэта адметная старонка беларускай „Белавежы".

Не абышла ўвагай даследчыца і творчасць старэйшых „белавежцаў": Алеся Барскага, Віктара Шведа і Дзмітрыя Шатыловіча. Мы ўсе добра знаёмыя з разнастайнай творчасцю гэтых аўтараў. У іх вершах, як і ў прозе, ёсць і адчуваецца дзея, напружанасць, лепш кажучы, энергічнасць, стройнасць і — нічога лішняга. Бо шмат вершаў у іх, якія ўцягваюць у сябе чытача, нешта адкрываюць, абуджаюць і зместам, і ўнутраным напружаннем думкі.

Не прайшла незаўважанай крытыкам і вартая кніга Міхася Андрасюка „Вуліца Добрай Надзеі", які, пагаджаюся з Алай Петрушкевіч, адзін з самых цікавых празаікаў „Белавежы", а таксама мастацка-дакументальная аўтабіяграфічная аповесць Віктара Стахвюка „Мая Камчатка" і падарожная аповесць „Корсіка" — рэчы ўнікальныя і даволі чытэльныя.

Тыя, хто прачытае кнігу Алы Петрушкевіч «„Белавежа": постаці, творы, героі», даведаюцца яшчэ пра матыў развітання і пра вобраз горада ў паэзіі „белавежцаў". Але развітвацца з творчасцю беларускіх паэтаў „Белавежы" ніхто не збіраецца. Пішуцца новыя творы, выдаюцца кнігі, а, значыць, будзе што чытаць і пра што пісаць.

Сяргей ЧЫГРЫН

# Ловіч


Базіліка

*Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага* з 1884 года: „Tak uposażone miejsce pierwszych książąt i prałatów państwa byłoby do wielkiej przyszło świetności, gdyby nie liczne klęski, jakich doznało, a które na zatamowanie wzrostu jego wpłynęły. W r. 1263 Litwini w perzynę je obrócili; gorzało następnie w r. 1515 a w r. 1525 spaliły się w niem nie tylko domy obywatelskie ale i kościoły”. Гэтай мясцовасцю, якую спустошылі сярэдневяковыя літоўскія ваяры, быў Ловіч. Дакладна невядома, каторы князь верхаводзіў гэтым войскам: Міндоўг, Войшалк ці Трайдзень. А тым болей невядома, адкуль былі шараговыя будрысы, якія завандравалі ў далёкія ляцкія землі за багатай здабычай; цалкам магчыма, што выводзіліся яны з найдалей прасунутых на захад закуткаў Наваградчыны. Такім закуткам спакон вякоў было Ляўкова з наваколлем, таму цалкам магчыма, што і мае прашчуры-аднавяскоўцы прывалаклі адтуль не толькі тамашнія дэнарыі ці найпрыгажэйшыя ловіцкія *ляшкі*, пра якія так гожа пісаў калісь навагрудчанін Адам Міцкевіч. Магчыма, што бравыя старалітоўскія ваяры нейкім чынам данеслі адтуль і прозвішча ад тамашняй, асацыяванай з ураджэнцам тамашняй зямлі Шапэнам, вярбы...

Ловіч, распалажаны ў самым цэнтры польскіх зямель і, знаходзячыся пад асаблівым заступніцтвам польскіх прымасаў, меў вялікія шансы стаць стольным горадам Каралеўства. Але каварная Гісторыя накідала гораду калод пад ногі; *Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага*: „Wojska szwedzkie zajęły m[ia]sto bez oporu pod przewodnictwem samego króla w r. 1653, który małą tylko załogę tu zostawiwszy, sam na dalsze udał się zdobycze. Zostawiony na straży m[ia]sta żołnierz, rozpasawszy się na wszelkie bezprawia, wypędzał mieszkańców z domów, nakładał kontrybucye, łupił i burzył kościoły. Ofiarą tego zniszczenia padły: kościół bonifratrów ś. Jana, ze szpitalem i kaplicą ś. Krzyża z ziemią prawie zrównane, oraz kościół dominikański znacznie uszkodzony. Kolegiata, świeżo wówczas wystawiona, została tylko sprofanowaną i ze sreber obraną. Zaledwie Szwedzi uchodząc przed zbliżającą się znaczną siłą Polaków Ł. opuścili, aliści niekarny polski żołnierz, w liczbie 30,000 rotami swemi zapełniwszy miasto, do szczętu one złupił. Pomagały mu w tem liczne tłumy włościan, którzy, mając pola przez nieprzyjaciół zniszczone, w rabunkach i rozboju utrzymania życia szukali. W tej ostatniej klęsce straciło miasto nie tylko to wszystko co rabusie unieść mogli ze sobą, ale nawet wszystkie okna powybijane, wszystkie zamki z okucia wyrwane i zabrane zostały. Zaledwie plaga ta przeminęła, kiedy pobity w Prusach Rakoczy, sprzymierzeniec króla szwedzkiego, uciekając do Siedmiogrodu, na Ł. drogę swoją obrócił, a nie znalazłszy żadnego łupu w mieście, najsroższe na jego mieszkańcach wywierać począł okrucieństwa. Uchodząc z życiem przed tak srogim nieprzyjacielem, zbici i poranieni mieszczanie schronili się w okoliczne lasy, gdzie głód i w skutku tego rozwinięta zaraza nieustannie dziesiątkując, małą tylko ich liczbę zostawiła przy życiu. W r. 1657 opuścił nieprzyjaciel m[ia]sto, ale mało kto już do domu swego wrócił i przez długi czas w Ł. stało mnóstwo pustych murów. Była to już ostatnia tak wielka dla niego klęska. Oprócz tych wszystkich nieprzyjaznych dla niego okoliczności, które się tej stolicy polskich prymasów podnieść należycie nie dały, cierpiała ona w czasach odleglejszych od band rozbójniczych, które się ukrywały w gęstych do koła zaroślach. Bandy te, napadając w nocy najczęściej na uśpione miasto, mordowały ludność i rabowały dostatki; zmniejszył tę plagę arcyb. Jan Suchywilk, pozwoliwszy mieszczanom owe zarośla wyciąć i na grunta zamienić”. Такі здзек гісторыі здарыўся не толькі Ловічу, але пра гэта будзе мова далей.

У выніку напалеонаўскіх войнаў большасць польскіх зямель, у тым ліку і Ловіч, трапляюць у склад Расійскай Імперыі. Царскім намеснікам у Польшчы становіцца вялікі князь Канстанцін. Знаёміцца ён тут з мясцовай шляхцянкай Іааннай Грудзінскай, з якою жэніцца, развёўшыся з першай жонкай. Такі мезальянс трэба было неяк рэтушаваць... *Энцыклапедычны даведнік Брокхаўза і Эфрана*: „Ловичское княжество — в Варшавской губ. Под этим названием известно несколько десятков имений, расположенных в уездах Ловичском, Скерневицком и Сохачевском и составлявших собственность архиепископов гнезденских. Император Александр I пожаловал княжество цесаревичу Константину Павловичу”. А прыгажунька без арыстакратычнага радаводу атрымала званне ловіцкай княгіні; дарэчы — яна ніколі не завітала ў Ловіч...

Невядома, ці бывалі ў Ловічы і нейкія важнейшыя расійскія вяльможы. Аднак у Ловічы 18 снежня 1806 года быў на нейкі час спыніўся Напалеон Банапарт, і гэтая падзея з'яўляецца важнай цікавінкай для вонкавых гасцей.


Намагільнік

У Ловіч пасля паўстання 1830-1831 гадоў завітаў расійскі гарнізон, якому трэба было задаволіць рэлігійныя патрабаванні. Гэтыя патрабаванні задавальваліся спачатку ў розных месцах, але з ходам часу быў там устаноўлены стабільны прыход. Даўнейшая каталіцкая капліца св. Барамея, якая знаходзілася ў адным з флігеляў будынка былой духоўнай семінарыі, у 1820 годзе была перанесена ў Варшаву, а сам будынак быў пазней прызначаны для школы пад апякунствам ордэна піяраў, а пазней рэальнай гімназіі. Пасля паўстання 1863-1864 гадоў капліца была перанята для патрэб новага культавага абраду і адпаведна перароблена, аднак ранейшыя фрэскі на столі храма былі захаваны. На месцы капліцы св. Барамея ўсталявалася царква св. Іаана Хрысціцеля — да часу адступлення расіян у ходзе Першай сусветнай вайны. У ходзе Другой сусветнай вайны будынак быў значна знішчаны — захавалася адно тая яго частка, у якой раней былі храмы. Пасля апошняй вайны даўні школьны комплекс быў адбудаваны; цяпер там адкрыты ў 1952 годзе музей...

У Ловічы захаваліся таксама праваслаўныя могілкі, у тым ліку і некалькі вартых увагі намагільнікаў. На могілках таксама руіны могільнікавай капліцы. За агароджай даўніх праваслаўных могілак пахаваны каля трохсот польскіх жаўнераў, якія загінулі ў верасні 1939 года ў ходзе бітвы на Бзуры. Жыхар дома, які прылягае да гэтых могілак, гаварыў пра нейкае аднаўленне праваслаўных могілак, аднак нічога больш канкрэтнага не ўмеў сказаць; на развітанне папрасіў ён два злоты...

У Ловічы, як нядаўненька згадвалася, нарадзіўся славуты польскі акцёр Данель Альбрыхскі. У згаданай раней царкве ў Раждзство 1872 года быў ахрышчаны адзін з галоўных персанажаў расійскай гісторыі, меnavіта Грамадзянскай вайны ў канцы другога дзесяцігоддзя дваццатага стагоддзя, Антон Дзянікін. Вікіпедыя: „Антон Іванавіч Дзянікін нарадзіўся 4 (16) снежня 1872 года ў вёсцы Шпеталь-Дольны, завіслінскім прыгарадзе Улацлавака, паявітовага горада Варшаўскай губерні Расійскай імперыі, у сям'і адстаўнога маёра памежнай варты. Бацька, Іван Яфімавіч Дзянікін (1807-1885), паходзіў з прыгонных сялян Саратаўскай губерні. Памешчык аддаў маладога бацьку Дзянікіна ў рэкруты. Пасля 22 гадоў салдацкай службы ён змог выслужыцца ў афіцэры, затым зрабіў ваенную кар'еру і выйшаў у адстаўку ў 1869 годзе ў чыне маёра. У выніку ён праслужыў у арміі 35 гадоў, удзельнічаў у Венгерскай, Крымскай і Польскай кампаніях. Маці, Лізавета (Эльжбета) Фёдараўна (Францыскаўна) Уржасінская (1843-1916), па нацыянальнасці полька, з сям'і збяднелых дробных землеўладальнікаў. Біёграф Дзянікіна Дзмітрый Ляховіч адзначаў, што ён, як адзін з правадыроў антыкамуністычнай барацьбы, па-за ўсякімі сумневамі, быў больш «пралетарскага паходжання», чым яго будучыя праціўнікі — Ленін, Троцкі і многія іншыя. 25 снежня 1872 (7 студзеня 1873) года, у трохтыднёвым узросце, быў хрышчоны бацькам у праваслаўі. У чатыры гады адораны хлопчык навучыўся бегла чытаць; з дзяцінства свабодна размаўляў на рускай і польскай мовах. Сям'я Дзянікіных жыла бедна і існавала на пенсію бацькі ў памеры 36 рублёў у месяц. Дзянікін выхоўваўся «ў рускасці і праваслаўі». Бацька быў глыбока веруючым чалавекам, заўсёды быў на царкоўных службах і браў сына з сабой. З дзяцінства Антон стаў прыслугоўваць ля алтара, спяваць на клірасе, біць у звон, а пазней чытаць шасціпсалміе і Апостал. Часам ён разам з маці, якая вызнавала каталіцтва, хадзіў у касцёл. Ляховіч піша, што Антон Дзянікін у мясцовай сціплай палкавой царкве ўспрымаў праваслаўнае набажэнства як «сваё, роднае, блізкае», а каталіцкае — як цікавае гледзішча”.

У сваіх мемуарах пра Грамадзянскую вайну Дзянікін, яе вядучы лідар, пісаў: „Армии понемногу погрязали в больших и малых грехах, набросивших густую тень на светлый лик освободительного движения. Это была оборотная сторона борьбы, ее трагедия... Войска были плохо обеспечены снабжением и деньгами. Отсюда — стихийное стремление к самоснабжению, к использованию военной добычи. Неприятельские склады, магазины, обозы, имущество красноармейцев разбирались беспорядочно, без системы. Пределы удовлетворения жизненных потребностей армий, юридические нормы, определяющие понятие „военная добыча”, законные приемы реквизиций — все это раздвигалось, получало скользкие очертания, преломлялось в сознании военной массы, тронутой общенародными недугами. Все это извращалось в горниле Гражданской войны, превосходящей во вражде и жестокости всякую войну международную. Военная добыча стала для некоторых снизу одним из двигателей, для других сверху — одним из демагогических способов привести в движение иногда инертную, колеблющуюся массу. Если для регулярных частей погоня за добычей была явлением благоприобретенным, то для казачьих войск — исторической традицией, восходящей ко временам Дикого поля и Запорожья, прошедшей красной нитью через последующую историю войн и модернизованную временем в формах, но не в духе...”.

Звыш трыста дзесяці гадоў раней тое ж самае, што і на бязмежных расійскіх прасторах, тварылася і ў амаль родным Дзянікіну Ловічы. Мяшчане ўцякалі ў лес, а нашы суайчыннікі — на Радзіму...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# In Memoriam Хведар Нюнька 1928-2018


Хведар Нюнька, Івонка Сурвіла — старшыня Рады БНР, Лёля Міхалюк (Лондан), юбілей 50-годдзя «Нівы», Беласток 2006 г.

2 ☞ працяг

і маючы перад вачыма мемарыяльныя шыльды ў гонар беларускіх герояў горада, заўсёды трэба памятаць, што за імі стаялі, між іншым, і Ягоныя цярплівыя намаганні. Гэта Ён даваў адпор рэпрэсіям у Рэспубліцы Беларусь, пікетуючы заўсёды пад бел-чырвона-белым сцягам беларускае пасольства ў Вільні. Да канца жыцця быў верны ідэі незалежнай, дэмакратычнай Беларусі і спадкаемнасці яе ад Беларускай Народнай Рэспублікі. У стагоддзе БНР мы страцілі аднаго з яе рыцараў-абаронцаў. Але зробленае Ім за ўсё жыццё, гэта той менавіта ўклад у адваёўванне і ўмацоўванне беларускасці ў мінулым і сённяшнім свеце. Вялікая Вам падзяка ад усіх нас і вечная памяць, шаноўны Хведар Нюнька. Схіляем свае галовы перад Вашай апошняй, зямной дарогай і хай беларускія сны і мары будуць здзейснены ў тым другім, лепшым свеце. Вечная Вам памяць!

Яўген ВАПА

---

МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
УПРАЎЛЕННЕ ПА АДУКАЦЫІ АДМІНІСТРАЦЫІ ЗАВОДСКАГА РАЁНА Г. МІНСКА
Дзяржаўная ўстанова адукацыі
Гімназія №14 г. Мінска

## http://gymn14.minsk.edu.by

Засталося не вельмі многа дзён, калі гэтае спякотнае і ў той жа час дажджлівае лета міне назаўсёды. Заканчэнне лета і надыход восені ў шмат каго атаясамліваецца з пачаткам навучання ці яго новым этапам. Але разам з радасцю ад надыходу новага навучальнага года ў Беларусі хтосьці, як напрыклад, аўтар гэтых радкоў, адчувае сум. Сум ад таго, што беларуская мова надалей працягвае знікаць з навучальнага працэсу. Справа ў тым, што беларускамоўныя школы ў большасці сваёй знаходзяцца ў сельскай мясцовасці, дзе колькасць насельніцтва, а значыць і дзяцей няўхільна змяншаецца. З-за гэтага зачыняюцца і сельскія школы. Тыя ж школы, што будуюцца ў гарадах, практычна ўсе рускамоўныя. А ў некаторых нават буйных паселішчах беларускамоўнага навучання ўвогуле няма.

Праўда, у беларускай сталіцы ёсць школы, дзе вучаць па-беларуску, і „Ніва" пра іх пісала раней. Напярэдадні новага навучальнага года варта назваць яшчэ адну такую навучальную ўстанову, пакуль яна, крый Божа, пад ціскам дэбеларусізацыі не перастане быць беларускамоўнай.

Сайт мінскай гімназіі № 14 месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://gymn14.minsk.edu.by.** Выглядае ён даволі прывабна, мае мноства рубрык і даволі лёгкі ў навігацыі. „Сардэчна запрашаем у адзіную ў Заводскім раёне г. Мінска беларускамоўную гімназію №14", — распавядаецца на фотаздымку гімназіі ўверсе цэлага выяўлення. Як адзначаецца ў падрубрыцы „Гісторыя і традыцыі", што знаходзіцца на старонцы „Аб гімназіі", навучальная ўстанова адчыніла свае дзверы для навучэнцаў роўна паўстагоддзя таму — у 1968 годзе. З 1991 года яна атрымала статус гімназіі з беларускай мовай навучання.

„Кажуць, такой прасторнай школы няма нідзе ў Беларусі. Незвычайная наша гімназія яшчэ і тым, што сярод шматлікай большасці рускамоўных школ нашай сталіцы мы — адны з тых, хто зберагае вернасць роднаму беларускаму слову, хто справай даказвае, што няма народа без роднай мовы і роднай спадчыны", — падкрэсліваюць сваю беларускамоўнасць уладальнікі сайта.

Варта адзначыць, што дадзеная гімназія абяцае не толькі беларускамоўнае, але і якаснае навучанне па розных накірунках. Так, вучні старэйшых класаў могуць абраць для сябе фізіка-матэматычны, філалагічны (беларуская і англійская мовы), хіміка-біялагічны профілі. Пры гэтым вывучэнне англійскай мовы вядзецца ад самага першага класа. У звычайных беларускіх школах гэтую мову як абавязковы прадмет пачынаюць вывучаць толькі з трэцяга класа. У 14-й гімназіі жадаючыя таксама могуць авалодаць карэйскай мовай.

Яшчэ адной вельмі станоўчай адметнасцю гэтай беларускамоўнай навучальнай установы з'яўляецца наяўнасць басейна. Яго могуць наведваць у пазаўрочны час і дарослыя, і іншыя дзеці, праўда, за грошы.

Цешыць ад наведвання сайта гімназіі №14 і тое, што яна стараецца прывабіць да сябе і тых, каму яшчэ ісці ў школу ранавата. Так, у навучальнай установе дзейнічае падрыхтоўчая школа „Разумнікі і разумніцы" для дзяцей 5-6-гадовага ўзросту.

Праўда, нават пры падкрэсленай беларускамоўнасці шэраг абвестак, як напрыклад, аб бяспечным праведзенні канікул, сайт падае на рускай мове.

Аляксандр ЯКІМЮК

---

Дата з календара

Падзеі і асобы БНР

## 80 гадоў з дня расстрэлу
## Уладзіміра Пракулевіча

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, юрыст Уладзімір Пракулевіч нарадзіўся 2 снежня 1887 г. у вёсцы Красналукі Барысаўскага павета (цяпер Чашніцкі раён). Невядомая нават дакладная дата яго нараджэння. У біяграфічных звестках напісана, што ён скончыў Смаленскую гімназію, а пасля, у 1912 г., юрыдычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. У час вучобы ў Маскве захапіўся марксісцкімі ідэямі і нават быў сакратаром часопіса адпаведнага кірунку „Возрождение", а таксама загадчыкам аддзела хронікі ў газеце „Копейка". У час першай расійскай рэвалюцыі актыўна ўдзельнічаў у працы сацыял-дэмакратычных гурткоў (РСДРП і Бунду). Да Першай сусветнай вайны працаваў у Мінскай казённай палаце, з 1914 г. — у Мінскім акруговым судзе. З пачаткам вайны эвакуяваўся ў Маскву, пазней працаваў рахункаводам у структуры Усерасійскага камітэта земскіх і гарадскіх саюзаў па забеспячэнні войска. З ліпеня 1917 г. зноў у Мінску на судовых пасадах. У гэты час далучыўся да прыхільнікаў беларускай незалежнасці.

У 1918 г. Пракулевіч абраны старшынёй Слуцкага з'езда міравых суддзяў. З прыходам бальшавікоў працаваў міравым суддзёй у мястэчку Вызна, прыхільнік Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. З узнаўленнем савецкае ўлады ў ліпені 1920 г. на пасадзе суддзі ў Слуцку. На з'ездзе Случчыны абраны старшынёй Беларускае рады Случчыны. Уладзімір Пракулевіч быў адным з кіраўнікоў антыбальшавіцкага Слуцкага паўстання. 15-16 лістапада ў яшчэ занятым польскімі войскамі Слуцку менавіта па ініцыятыве Пракулевіча быў сабраны з'езд прадстаўнікоў валасцей і мястэчак павета. Захаваўся тэкст прамовы Пракулевіча перад прысутнымі. Па словах гісторыка Анатоля Грыцкевіча гэтыя людзі „хацелі волі".

Далей Пракулевіч узначальваў Цэнтральны беларускі паўстанцкі камітэт, які быў створаны летам 1921 г. Гэты камітэт ажыццяўляў агульнае кіраўніцтва паўстанцкімі арганізацыямі ў Бельскім, Ваўкавыскім, Гарадзенскім і Лідскім паветах.

З 1921 г. працаваў у Вільні ў складзе Віленскага Белнацкама, сябар Заграніч-нага бюро БПСР. У 1922 г. у ліку трыццаці трох дзеячаў высланы польскімі ўладамі ў Літву, жыў у Коўне. У 1923 г. у Коўне кааптаваны ў склад ураду БНР на чале з Аляксандрам Цьвікевічам на пасаду дзяржаўнага сакратара. З канца 1923 г. у Празе, браў удзел у працы нацыянальных арганізацый беларускай эміграцыі. Удзельнік Другой Берлінскай беларускай палітычнай канферэнцыі, падпісаўся пад рэзалюцыяй пра ліквідацыю ўрада БНР. Чаму ён так зрабіў — дакладна невядома: магчыма пад нейкім ціскам, а магчыма і паверыўшы ў тое, што зможа працаваць на карысць Беларусі на Бацькаўшчыне.

З траўня 1926 г. у Савецкай Беларусі. Працаваў у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР на невысокай пасадзе. Яго далейшы лёс быў прадвызначаны. 19 ліпеня 1930 г. Пракулевіч арыштаваны ГПУ па справе так званага „Саюза Вызвалення Беларусі" і на 5 гадоў высланы ў Свярдлоўск (цяперашні Екацярынбург). У студзені 1938 г. зноў арыштаваны „як удзельнік контррэвалюцыйнай арганізацыі, што працавала на карысць адной з замежных дзяржаў", засуджаны да расстрэлу. Расстраляны 20 жніўня 1938 г. Месца пахавання невядомае. Рэабілітаваны па першым прысудзе ў чэрвені 1988 года, па другім — у красавіку 1989 года. У Беларусі памяць пра яго адзначана толькі ў невялікіх публікацыях.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

3 ☞ працяг

# Знаёмыя твары на Панцеляймона

на веласіпедах і конях. Элегантныя на шлюбах, на фэстах, на «ёлачках», у школьных фартушках — на здымках з настаўнікамі, з дырэктарам школы, на сцэне разам з незабыўнымі «Сямянамі»... Вакол засяроджанага і радаснага тлуму ў святліцы круціцца плойма моладзі. Глядзіш на прыгожыя, светлыя твары — і адразу ведаеш, «чый хто». Загарэлыя, адкрытыя, непасрэдныя. Як і ў Мар'ёлі Рэент, семяноўскай Карпючанкі — дырэктаркі ГЦК.

— Не параўноўвайце нас з яцвягамі, — кажа Юрка Панкоўскі, які быў адным з інспіратараў Юркі Шыманюка пры зборах і каталагізацыі здымкаў.

— І не кажыце, што гэта рэквіем, — кажа вядучая ўвесь фэст Кацярына Бяляўская, археолаг па адукацыі. — Можа, хтосьці падумае, што старыя, закінутыя здымкі камусьці прыдадуцца, падумае, што яны і яму патрэбныя, што пра гэта трэба дбаць. Гэта памяць, якая сведчыць аб нас саміх. Трэба шукаць, пытаць, думаць, распазнаць людзей, сваіх продкаў. Гэта наша спадчына, наша культура. Можа з гэтага атрымацца сямейны фотаальбом, а можа выйсці памятка пра ўсю вёску, пра суседнія, можа і пра ўсю гміну. А людзі, пра якіх гаворым, паказваем, цешацца тым, што пра іх, пра тое, што яны рабілі, гулялі, ёсць яшчэ памятка. Юрка Шыманюк, па прафесіі вайсковец, робіць сваю старонку пра наша старонне. Гэта наш архіў. Юрка даходзіць да ўсіх людзей, да кожнага чалавека, людзі перад ім адкрываюцца, паказваюць свае альбомы. Юрка таксама шукае інфармацый пра гісторыю кожнай вёскі і паасобных людзей, збірае цікавыя гісторыі пра іх, пра Белавежскую пушчу. Цяпер супрацоўнічае з ГЦК, робіць нам старонку пра макаткі з Нараўчанскай гміны. Проста вельмі падмацоўвае нашу культуру.

— Гэтыя фатаграфіі гэта не быў нейкі праект. Гэта з сэрца выйшла, як я рабіў тую старонку, — кажа Юрка Шыманюк. — Крыху за падмовай Юркі Панкоўскага, якому рабіў мультымедыйную прэзентацыю на сямейную сустрэчу. Рашыў я зрабіць са здымкаў сямян і жыхароў іншых вёсак такі паказ здымкаў спецыяльна пад фэст. Пачаў у сакавіку. Меў хіба з 12 праектаў гэтай прэзентацыі. Рашыў зрабіць тэматычна — ад дзяцінства, праз школу і старэйшы век — для нашага самага старога пакалення. Здымкі розныя, часам ледзь кагосьці пазнаць. Не было калісь тэлебачання, інтэрнэту, людзі да сябе хадзілі, жылі разам, рабілі разам. Тыя самыя простыя здымкі — самыя прыгожыя. Ёсць там і мае першыя здымкі, якія я рабіў фотаапаратам «Druh Synchro», вельмі танным — памятаю, заплаціў я за яго 105 злотых, з чаго 80 злотых зарабіў падчас каляды, а рэшту даклала мне баба. Здымкі слабыя, але сантымент, успамін — цудоўны. Я рашыў паказаць тыя здымкі, якія я меў і якія далі мне суседкі, бо найчасцей жанчыны дзяліліся сваімі ўспамінамі. На старонцы пра Семяноўку і наваколле, апрача фактаў, быляў, паяўляюцца і небыліцы, можа крыху і новыя... міфы. Бывае, што і навукоўцы спасылаюцца на мае меркаванні. Напрыклад, адкуль узялася назва Семяноўкі. Ці ад нейкага Сямёна, ці ад льнянога семя. Тут скрозь сеялі лён... Я сам у цывільнай прафесіі — ляснік, а пасля вышэйшай афіцэрскай школы — танкіст. У арміі быў афіцэрам-кадравіком, пасля адміністратарам у ваенкамаце ў Беластоку. А цяпер тут — у сябе. Добра паслухаць роднае...

А спявалі «Ручаёк» з Белавежы, «Гармонь» з Ласінкі, «Сэвэн» з Бельска ды славутая «Зорка» — як казаў яе вельмі дасціпны вядучы: «забава была гарантаваная». Вельмі спадабалася выступленне моладзі з горада Бурынь на Украіне, што вучылася спяваць нашы песні з моладдзю з Орлі ў Цэнтры экалагічнай адукацыі, пад кіраўніцтвам Марка Хмялеўскага. А пасля — у густую ноч, пад бляскам адмысловых шароў з лямпачкамі — да поўначы іграў над вадой «Твістэр», прыцягнуўшы слухачоў з другога берага вадасховішча, ужо з Міхалоўскай гміны.

❖Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**



## Адгаданка

**1.** сяброўка банкнота, **2.** звер з „Чырвонай шапачкі”, **3.** адміністрацыйная адзінка ў дзяржаве Трампа, **4.** жыхар Новай Гвінеі, **5.** кіруючая ўстанова, напрыклад, гмінай, **6.** маці жарабяці, **7.** горад між Нараўкай і Кляшчэлямі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 31 нумара**

Ака, бой, гнеў, Доха, Ева, Тува, цечка, Цітоў.

Рашэнне: **Хто баіцца ваўкоў, той не гадуе авечак**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 26.08 — 01.09

**(22.03. — 20.04.)** Чакаюць цябе ўдачы і папулярнасць. Заззяеш у прафесіі. Прыкмеціш новыя шанцы і хутка іх ажыццявіш. Запануеш над кожнай сітуацыяй. З 27.08. адкрыецца кар'ера ў новай фірме. Незалежна ад невялікага замяшання, пойдзеш уперад як страла. Парадкі паробіш спраўна, і не стомішся пры іх. Зрабі сабе нейкую прыемнасць — належыцца табе!

**(21.04. — 21.05.)** Каля 27.08.бяспека, спакой, мілая неспадзеўка. Мусіш абдумаць пару сапраўды для цябе важных спраў. Ідзі за тым, што прыходзіць самое, лаві нагоды! На працы пільнуй, каб твае старанні не пайшлі ўпустую; будзеш узнагароджаны.

**(22.05. — 22.06.)** Твае паводзіны будзе характарызаваць нецярплівасць. Затое напоўніш іншых сваёй інспірацыяй. Каханне развіваецца памалу, ды інтэнсіўна. На працы лепш спавольні тэмп, адпачні. 26-28.08. не паўтарай старых памылак. Калі плануеш трэнінгі ці худзенне, скажы аб гэтым сябрам — яны дапільнуюць, каб ты не спыніўся.

**(22.06. — 23.07.)** 26-27.08. нішто не павінна цябе вывесці з раўнавагі. 26-27.08. вернецца да цябе дабро, якое ты зрабіў іншым. 25-29.08. — любоў ад першага пагляду! 26-29.08. можа наваліцца на цябе лавіна крытыкі. Дзейнічай больш неканвенцыянальна, будзеш ад гэтага мець большы поспех. Дойдзеш да раўнавагі, пазбыўшыся благіх эмоцый. Будзь больш „на люзе”, прыдасца табе больш спантаннасці і добрай забавы. Новае знаёмства з інтэрнэту можа быць карысным.

**(24.07. — 23.08.)** 25-27.08. — трэба будзе пэўна зрабіць крок або два назад. Хаця будзе больш грошай. 25-29.08. можа паявіцца хтосьці, хто пераможа цябе тваім ружжом. 26-28.08. высветліцца памылка ў банку ці ўстанове. Твой партнёр глядзіць на цябе як на карцінку. Зможаш кантраляваць сітуацыю, вернецца раўнавага. Прыцягваеш адно самых цудоўных людзей.

**(24.08.—23.09.)** Хутка аформіш цяжкія справы (да 29.08.). 25-27.08. можаш закончыць старыя канфлікты ды некаторыя знаёмствы, дзе цябе выкарыстоўваюць. 26-27.08. узмоцніш сваю пазіцыю ў сям'і. Але 29-31.08. можаш апынуцца ў нявыгадным палажэнні. Сімпатыя атачэння. Шмат спраў папхнеш уперад. Не насі поўнага кашалька, грошы раскладвай у розныя месцы. Варта табе паездзіць на веласіпедзе.

**(24.09. — 23.10.)** 26-29.08 у тваёй пары можа запахнуць здрадай. Будзеш наіўны, некрытычны. Не падпарадкоўвай свайго жыцця адной асобе! Не трап у пастку хцівасці! Захочаш пазбыцца са свайго жыцця ўсяго, што табе мяшае; нават жорстка і назаўжды. На працы добрае супрацоўніцтва, прыбыткі для фірмы і для ўсіх у калектыве.

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш схільны да бескарыснай дапамогі. Не будзеш жыць адно працай. Правядзі больш часу са сваякамі і сябрамі. Не ўступі ў небяспечныя інвестыцыі. Развівай крылы і ажыццяўляй рэальна свае мары. Хаця 29-31.08. прыйдзецца табе адмовіцца ад чагосьці, на чым табе моцна залежала. 25-29.08. у пары можа аказацца, што супольныя зацікаўленні і цікавыя размовы гэта замала, калі няма паміж вамі «хіміі». Добра высыпайся ды ў час для таго адпаведны.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш раптоўны, злосны, правакатарскі. Не бяры голасу пры пытаннях, у якіх не разбіраешся. Весткі пра нейкую жанчыну цябе могуць ашарашыць. Схільнасць да рызыкі і экстрыму. 26-28.08. усе твае мерапрыемствы могуць кончыцца паразай. Можаш мець алергію на сонца.

**(23.12. — 20.01.)** 25-29.08. разбураны спакой у парах, асабліва з доўгім стажам. 26-27.08. засяродзішся і дасягнеш мэты; новыя зацікаўленні і хобі. 29-31.08. цяжкія і нявыгадныя рашэнні. Старайся ладзіць рамантычныя хвіліны з каханай асобай. На працы можаш нарабіцца, ды і заробіш. Ды не купляй цяпер нічога дарагога і лепш не бяры пазык.

**(21.01. — 19.02.)** Будзь вельмі асцярожны пры наладжванні новых знаёмстваў і не парывай старых ды добрых. Наляцяць табе ў галаву новыя ідэі і задумы, якія здадуцца табе геніяльнымі (можа, цяпер лепш іх не рэалізуй). 26-28.08. не ляпні лішняга кіраўніку. Слухай парад разумных і дасведчаных людзей. Выдай крыху грошай на прыемнасці для сябе. Справішся са сваімі апаскамі і траўмамі.

**(20.02. — 21.03.)** 25-27.08. не пераборшч з «прыемнасцямі», каб сабе не нарабіць шкоды. 26-27.08 можаш атрымаць карысную прапанову працы ці супрацы; добра рыхтуй планы дзеянняў. 26-28.08. не паддай сябе інтрыганам і хітрунам. 25-29.08. і не думай «скокнуць у бок», бо горка пашкадуеш! Лішак энергіі выкарыстай канструктыўна. Фізічны высілак пазбавіць цябе благіх эмоцый. Ахвота направакаваць і паказаць сваю арыгінальнасць, трэба будзе, аднак, захаваць таксама дысцыпліну ды парадак. Дбай аб сваё горла.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# Маё Кіліманджара
## частка 3



Так вандруе абоз.

Джунглі заканчваюцца раптоўна. Няма нейкага пераходнага моманту, калі дрэвы становяцца ніжэйшымі, растуць радчэй, а між імі паяўляецца ўсё больш кустоў, кветак, травы. Тут усё інакш. Ідзеш, ідзеш між амшэлых пнёў, пад пакручанымі галінамі, з якіх звісаюць доўгія лішайнікі, у цяні і раптам выходзіш на сонца і апынаешся ў кустах верасу з роду эрыка і сярод чырвоных бугенвіляў. Хтосьці з групы пабачыў ля сцежкі наш свойскі палын, іншы пачуў жаваранка. Ідылія.

— Гадоў дзясятак таму здарыўся тут вялікі пажар, — расказвае Лешак Ціхы, які на Кіліманджара ідзе ўжо сямнаццаты раз. — Усё згарэла датла. Страшна было глядзець на чорнае папялішча. Доўга прырода залечвала раны, але, як відно, загаіла іх.

Ідзем памалу, вельмі памалу. Ёсць час на фатаграфаванне і размовы. Івэта — адзіная жанчына сярод праваднікоў — расказвае пра сваіх сыноў і цяжкі шлях, які мусіла прайсці, пакуль дазволілі ёй хадзіць на гару разам з мужчынамі. Салім перадае навіны з Мундыяля. Радыё праваднікоў на пару дзён стане нашай адзінай крыніцай інфармацыі, бо ўжо першага дня згубім не толькі інтэрнэтную, але і тэлефонную сувязь з вонкавым светам.

Па дарозе мяняюцца не толькі прыродныя зоны, але і надвор'е. Прычым гэта можа здарыцца вельмі хутка. Калі першы раз паказалася нам вяршыня Мавензі, ніжэйшая за Пік Угуру, але больш маляўнічая — стромкая, з крутымі абрывамі і суровымі скаламі — грэх было не зрабіць здымка. Аднак пакуль дастаў я з заплечніка фотаапарат, гару затулілі хмары. Можна падумаць, што я рабіў гэта вельмі марудна, але побач са мною стаяла некалькі падобных асоб з апаратамі ў руках і разяўленымі ад здзіўлення ратамі.

Раз заспеў нас дождж. Як звычайна гэта здараецца — на адкрытай тэрыторыі. Мае спрактыкаваныя калегі тут жа падаставалі з заплечнікаў курткі і накідкі ад дажджу. Я аказаўся быць зусім не гатовы на такую акалічнасць. Праўда, набыў добрую куртку, але на большую вышыню, не столькі на дождж, а на вецер, снег і мароз. На саванне меў я толькі лёгкую гарадскую куртачку, якая тут жа і прамокла. Рукзак таксама быў па-аматарску ненадзейны. Ну ўсё, па фотаапараце і тэлефоне! На шчасце, дождж як вокамгненна пачаўся, так і праз дзесяць хвілін скончыўся. Ні мне, ні тэхніцы нічога не сталася.

* * *

Другі начлег быў на вышыні 3450 метраў. База называлася *Другая пячора*, бо сапраўды непадалёк такая пячора — адлітая з вулканічнай лавы паміж скал — была. Дарэчы, у першай, якую мінулі па дарозе, праваднікі паказвалі нам сляды сланоў і буйвалаў. Нічога сабе! У турыстычным даведніку чытаў я раней, што якраз з прычыны гэтых найбольшых млекакормячых праваднікі на суседнюю, крыху ніжэйшую гару — Меру — ідуць са стрэльбамі, а на Кіліманджара зброя непатрэбная. Мурашкі пабеглі па спіне. На маё — пацыфіста і эколага шчасце — абышліся мы без зброі. І ўсе засталіся жывымі.

На інфармацыйнай дошцы ў базе *Другая пячора* было напісана, што да месца папярэдняга нашага начлегу ўсяго дзве гадзіны маршу, а да брамы нацыянальнага парку, дзе мы пачалі нашу вандроўку — чатыры. Мы ішлі два дні! Чаму нашы праваднікі так нас марудна вядуць? Гэтае ўмоўнае азначэнне дарогі і часу не давала мне спакою.

— Лешак, а ты змог бы так за дзень-два ўзабрацца на вяршыню?

— А навошта? — дасведчаны гімалаіст толькі пацяснуў плячыма і даў мне чарговую таблетку, якая ачышчала арганізм ад лішняй вады і солі. — Не, не даў бы рады. Патрэбная акліматызацыя. І ты рабі ўсё як трэба.

І я рабіў. Піў таблеткі, пасля якіх трэба было некалькі разоў вылазіць з палаткі ў халодную ноч. Кожны вечар выстаўляў палец да апаратуры, якой нам мералі ўзровень кісла-


З Івэтай у самай высокай базе.

роду ў арганізме. І многа еў, бо кухары нам казалі, што трэба наесціся на запас, бо на вышыні згубім апетыт. Прычым гэта не выдумка, а навукова пацверджанае, гаварылі, бо адзін з іх закончыў спецыяльную школу ў Арушы, дзе даследавалі харчовыя патрэбы чалавека ў высокіх гарах. Мне гэтая танзанійская навука ледзь бокам (і не толькі) не вылезла, але гэта было пазней.

Першы крызіс перажыў я на, здавалася б, лёгкім этапе. За дзень трэба было падняцца ўсяго на чатырыста метраў. З базы пад Мавензі ішлі мы горскім сядлом да падножжа Піку Угуры, з 4300 метраў на 4700. Гэта павінен быў быць бестурботны шпацыр.

— Чакае нас прыемны дзянёк, — усміхаўся Лешак на ранішняй нарадзе, — роўная сцежка, нахіл незаўважны, усяго тры працэнты. Толькі пад канец будзе круты падыход пад базу, больш-менш дваццаць працэнтаў. Да месца адпачынку адтуль ужо рукой падаць, будзеце бачыць лагер, будзеце адчуваць спакусу як найхутчэй да яго дабрацца. Але памятайце, перад намі яшчэ адзін вельмі доўгі, цяжкі дзень. Трэба захаваць на яго як мага больш сілы. Мусіце на апошнім адрэзку сённяшняга этапу перамагчы спакусу і не паскараць хаду!

Перамагчы спакусу прыйшлося мне вельмі лёгка. Пасля паругадзіннага „шпацыру" на гэтай вышыні я не меў ні ахвоты, ні сілы на тое, каб падоўжыць або паскорыць крок. Ногі чапляліся адна за адну, лёгкія не дыхалі, а свісталі, у галаве кружылася і я, як кажуць, падаў на нос. Марыў пра адно — дабрацца як-небудзь да палаткі і прыняць гарызантальную пазіцыю. Тым часам


Джунглі. Дрэва з лішайнікамі

у лагеры чакала яшчэ адно катаванне.

Пад палаткі звычайна насільшчыкі шукалі ўтульнае месца. У базе Кіба (*Kibo Hut)* на вышыні 4700 метраў зацішная лагчына была надзвычай дарэчы. Усё было б выдатна, калі б не фізіялагічныя патрэбы. Прыбіральні *sławojki* стаялі на скалах, не толькі ў пэўнай аддаленасці, але і крыху вышэй чымсьці палаткі. Як жа гэтыя пару метраў вышыні аказаліся складаныя! Па дарозе ў прыбіральню цяжка ўсё лагічна ўзважваць і памятаць, каб не спяшацца. Тым больш, што прыменены на нас танзанійскі навуковы падыход да здаровага харчавання ў гарах пачаў даваць эфекты!

* * *

— Арганізмы здаровыя, — сказалі згодна Лешак і кіраўнік праваднікоў Кевін пасля апошняга памеру кіслароду ў крыві, — цяпер усё ў вашых галовах.

Не ведаю, што было ў чыёй галаве, а ў маёй білася адна думка. Калі я тут ледзь пераstаўляю ногі, калі мяне пасля трох крокаў затыкае, што будзе тысячу дзвесце метраў вышэй? І як я туды залезу? Выбар, аднак, быў невялікі. Або адмаўляцца ад здзяйснення сваёй мары, або менш думаць і рабіць што трэба.

Трэба было хоць крыху прамыць твар і рукі, хутка павячэраць і легчы, каб паспаць пару гадзін перад выпрабаваннем. Раніцай і вечарам даставалі мы па місачцы (літр-два) цёплай вады. На першыя начлегі насільшчыкі неслі яе знізу, потым бралі проста з горных крыніц і ручаёў, так для мыцця, як і гатавання ежы. Чым вышэй, тым вада была чысцейшай, але ахвота мыцца ўсё меншай. І есці зусім адхацелася, калі Лешак Ціхы папярэдзіў, што з большай патрэбай мы павінны справіцца перад дарогай, бо з поўным жыватом будзе цяжка. А шлях вузкі, людзей многа, няма як адысці ўбок, за што схавацца.

— Вымі ўкладкі з чаравікаў і схавай у спальнік, тое самае зрабі са шкарпэткамі. Арганізм не будзе траціць энергіі на тое, каб разагрэць ногі. — параіў мне Лешак перад сном і тут жа захроп.

Мой арганізм не быў такі паслухмяны. Прыйшлося паварочацца з боку на бок, пакуль не заснуў. Ды і была гэта хутчэй дрымота з нейкімі трызненнямі чымсьці моцны сон, які дае адпачынак і прыносіць палёгку.

Перад поўначчу былі мы ўжо на нагах. Пару глыткоў гарбаты, хто хацеў, той з'еў крыху аўсянкі. Камусьці закарцела пачуць рэзультат вечаровага матча Польшча — Калумбія. Салім тры разы ўпэўніваўся, ці мы хочам гэта ведаць, пакуль нам сказаў.

— Прынамсі стала ясна, — адрэагаваў на пройгрыш футбалістаў у матчы апошняга шанцу Кшыштаф, — цяпер уся надзея на нас.

З гэтай думкай і пайшлі мы ў цемру.

(працяг будзе)

Тэкст і фота **Міколы ВАЎРАНЮКА**

ISSN 0546-1960 34